— А тут, дзіцятка, і расказу таго нямнога. Помніш, можа, у Ганны Каўлаёвай карова была. Букетка, рыжая такая, у белыя латы? Добрая карова была, вымя тое, што цэбар, аж ногі раскірэчвае. Шмат малака давала. А тут раптам прапала яно. Дзень — няма, другі — няма. Ганна на мяне пачала наракаць. Што за навалач, думаю, дай — папільнуюю. Аднойчы паляглі кароўкі, як цяпер якраз, а тая Букетка бокам-бокам ды ў кусты. Ну і я за ёй цікую. Падыходзіць яна да таго пня і замыкала. І тут, дзіцятка, з-пад пня, з нары вуж выпаўз. Абкруціўся ў Букеткі вакол нагі і за вымя. Адну цыцку высмактаў, потым за другую ўзяўся. На вачах яго распірае. Злосць мяне ўзяла. Ах ты, думаю, поскудзь гэтакая! Зрабіў гэта я рагачык і ўшчаміў гада. Прыходзіць Ганна карову даіць, я і паказваю ёй. Вось хто, кажу, тваю карову выдойвае. А яна яшчэ і не верыць. «Ты ўжо,— кажа,— Язэп, мусіць, і зусім звар'яцеў». Ага, ледзь не зазлаваў я. Глядзі, кажу, хто звар'яцеў... Як ударыў па вужу палкай, а з яго — малако, як са збана, палілося. Вось, дзіцятка, якое бывае! Я і сам не паверыў бы, каб сваімі вачыма не пабачыў. А людзі мне і цяпер не вераць. Смяюцца, кажуць: «Выдумляеш ты, Язэп!..» А навошта мне выдумляць?

Язэпка змоўк, нібы хацеў пачуць ад мяне адказ на гэтае ягонае — «А навошта мне выдумляць?».

Жанчыны прыйшлі даіць кароў. Стэпка Банукова прынесла Язэпку полудзень — паставіла перад ім гладышык шчаўя, міску яешні-баўтухі, бутэльку малака. Язэпка глядзеў, як Стэпка прыгатаўляла ўсё гэта, усміхаўся і неяк вінавата гаварыў:

— А Стэпачка, гэта ж касцу абед, а то і дваім! Навошта ж так? Я толькі малачка пап'ю.

Ён выпіў з паўбутэлькі малака, закусіў хлебам.

— Дзякуй, Стэпачка. А ты, дзіцятка, бяжы дадому, таксама папалуднуй. Кароўкі яшчэ з паўгадзінкі паляжаць. Не баўся толькі.

Я і так доўга не забавіўся б. Мне карцела быць разам з Язэпкам і слухаць яго дзіўныя гісторыі. Тады я забываўся, што ў вёсцы над ім пасміхаюцца. А калі ўспамінаў, мне станавілася ад таго сорамна...

* * *

Шмат пазней ад маці я даведаўся, што з Язэпкам у дзяцінстве здарылася бяда, здарылася з-за бацькі.

Бацькі яго я не памятаў. Маці ж расказвала, што ён быў высокі, плячысты мужчына, цягавіты і ўпарты, як стары, натруджаны конь. Хадзіў ён вечна прыгорблены, ад чаго рукі яго з чырвонымі вузлаватымі кулакамі здаваліся занадта доўгімі. Яго злыя, бясколерныя вочы вечна глядзелі ўніз на крывыя, збітыя пальцы парэпаных ног, якія ад першай веснавой да апошняй асенняй баразны не ведалі аніякага абутку.

З-за яго, казала маці, і здарылася з Язэпкам тая бяда.

Здарылася тое даўно. Маці гаварыла, што яна тады, якраз перад тым летам, выйшла замуж і пераехала ў нашу вёску. Язэпку было тады гадоў сем. Восенню яму трэба было ісці

ў школу. Але прыйсці туды яму так і не давялося.

Бацька Язэпаў меў на той час дзве каровы. Маці нават памятала, як іх звалі — Панядзёха і Аўтарэня. Тым годам адна з іх гуляла перадойкай. І вось у разгар лета Язэпаў бацька павёў карову ў суседнюю вёску да быка. Прывёўшы яе назад, ён падаў павадок Язэпку:

— Вядзі, папасі сёння, бо ў чараду нельга пускаць. Вядзі ў Лучкі, пад Папоцы раўкі. Я туды па дровы прыеду, дык Сівога патрымаеш, а то авадні сякуць дужа.

Язэпка наматаў павадок на руку і пайшоў з каровай у Лучкі. Там, у кустах, густа парос парыннік, які ў нашай вёсцы завуць рабіннікам, і чмялёўнік — каровіны ласункі. Язэпка адпусціў павадок, галінкаю вольхі ганяў аваднёў са спіны і пахвін каровы і слухаў, як яна сакавіта хрумстала росную ў кустах траву, захопліваючы яе шурпатым языком-шчоткай.

Неўзабаве па сценцы, унізе, заляскаталі калёсы — ехаў бацька.

— Тата, я тут...— азваўся Язэпка.— Мне ўжо ісці?

— Прывяжы карову! — гукнуў знізу бацька.

Калі Язэпка падбег да яго, ён ужо накладваў на калёсы альшэўнік. Язэпка ўзяў каня за аброць, адламаў галінку ганяць з бруха Сівога аваднёў. Але конь усё роўна не стаяў, тузаў калёсы. Язэпка бачыў, што бацька злуецца, і як мага стараўся стрымліваць Сівога, які трохі не вылузваўся з аглабель.

І раптам Сівы рвануўся так, што Язэпка ледзь не ўпаў. Аброці ён не выпусціў, але калёсы ўсё ж крыху пракаціліся. Бацька з альшэвінай у руках пахіснуўся, не паспеў адскочыць,

і кола праехала па яго босых пальцах. Ён войкнуў, выпусціў альшэвіну і кінуўся да каня.

Заехаўшы аплявуху Язэпку, бацька выхапіў з-пад сядзёлкі пугу, ірвануў з рук сына аброць і пачаў лупіць пугаўём Сівога па галаве. Сівы хроп, кідаўся, падымаўся на дыбкі, біў нагамі па перадку і аглоблях, а бацька вар'яцеў усё больш і больш, і ўсё хвастаў і хвастаў пугаўём па крывавай і пеністай конскай мызе.

Язэпка заткнуў вушы і, забыўшыся на боль, са страхам глядзеў на бацьку і Сівога. І тут ён убачыў, як з-пад пугаўя выскачыла сіне-белае конскае вока і з вочнай ямкі палілася кроў. Сівы захроп і жаласліва заіржаў.

— А-а-а! — нема закрычаў Язэпка і кінуўся бегчы. Ён бег напрасткі, па нечай бульбе і жыце. Рот яго быў раскрыты, але хлопчык ужо не крычаў, а толькі бязгучна, з усхліпамі, вякаў. Перад вачыма яго ўсё стаяла сіне-белае конскае вока і бацька, які з аскаленымі зубамі раз-пораз узмахваў пугаўём.

Язэпка захварэў. Доўга праваляўся ў пасцелі. Ён застаўся жыць, але, як казала маці, у галаве яго нешта развінцілася. Ён усіх баяўся, асабліва бацькі, забіваўся куды-небудзь адзін і ціхутка сядзеў там, пакуль маці ці хто з суседзяў не знаходзілі яго.

З гадамі страх той прайшоў. Язэпка пасталеў, паспакайнеў. Але да бацькі так і застаўся ў яго не то страх, не то нянавісць. Нават хаваць яго Язэпка не пайшоў: у той дзень некуды сышоў з дому.

Неўзабаве хлопчык асірацеў. У іхнюю старую хаціну прыбілася аднекуль бабка Дарка, тады яшчэ, казала маці, нестарая жанчына, і Язэпка жыў пры ёй. А калі аднойчы вяскоўцы

падраджалі пастуха, Язэпка падахвоціўся ганяць чараду. З тае пары ён шмат гадоў хадзіў за вясковым статкам.

* * *

Нядаўна ў водпуск я правёў некалькі дзён у роднай вёсцы. Дзіўная гэта рэч — пасля доўгай ростані пабываць дома. Радасная і аднача-сова сумная. Ідзеш вуліцаю, дзе калісьці кожны камень пакінуў меціну на тваіх босых нагах, і не пазнаеш, і здзіўляешся, і ўспамінаеш. Хаты амаль усе новыя. Бярозы, клёны, ліпы, рабіны ўздоўж вуліцы выцягнуліся, разрасліся, а здаюцца чамусьці меншымі, нязграбнымі. Разумееш, што не так гэта, што мераеш усё тым, ранейшым, дзіцячым ростам і позіркам, разумееш, а не можаш пагадзіцца. Ну вось — няўжо тая самая Банукова ліпа з буслянкай наверсе? Шапка валілася тады, калі глядзелі мы на бацяноў, што прыносяць у хаты дзяцей. А цяпер? Так сабе, звычайнае, не дужа тоўстае і не дужа высокае дрэва. Пад ліпай бярвенцы. Няўжо тыя самыя? Быць не можа! Так і ёсць, не тыя. Відно, што акораны нядаўна, хоць і паспелі пасівець, хоць ужо і выслізганы дзецьмі. Яны і цяпер, дзеці, тут. Гэтак жа, як і мы некалі, гуляюць у свае дзіцячыя гульні...

За дні, што прабыў дома, пахадзіў я тымі сцежкамі і мясцінамі, дзе бегаў у дзяцінстве. Схадзіў у лес, у Лучкі, пад Смаляковы і Паповы раўкі, забрыў уздоўж рэчкі на Доўгае балота. Паменшаў, пamізарнеў лес, надараліся ў ім маладыя, незнаёмыя палянкі і прагаліны. Апаўзлі Паповы раўкі. Крынічка, што выцякала з іх, зарасла, заплыла тванню. Замест чыстай, пра-

зрыстай крынічкі стаіць, дрэмле невялікае балотца з лапінкай вады.

Думалася пра тое, што назаўжды застаецца з чалавекам ягонае маленства — час высокіх дрэў і бясконцых сцежак, час бясхмарных уцех і балючых крыўд, доўгіх сонечных дзён і кароткіх начэй, і што час гэты прыходзіць да нас салодка-шчымлівымі ўспамінамі — нязбытнымі і незваротнымі. Усё гэта навявала ціхі смутак.

Затое дужа ўзрадаваўся, натрапіўшы на тую алешыну-рагач, якую паказаў мне некалі дзядзька Язэп. Асіна не загінула. Яна выцягнулася і дружна шапацела на ветры вяршалінай.

І вельмі блізка нагадаўся дзядзька Язэп — пастух Язэпка. І захацелася расказаць пра яго...





## НА АДНЫМ КАЛІДОРЫ

Вадзім быў рады, калі яму ўручылі ў райвыканкоме ордэр на кватэру. Гэтая радасць прыйшла да яго нават не тады, калі ўжо трымаў у руках блакітную паперку, а раней, калі пасля пасяджэння мясцкома яму сказалі, што разглядалі яго заяву і што яму вылучылі пакойчык, у старым доме, які, магчыма, праз год-два пойдзе пад знос, і тады Вадзіму можа лёгка перапасці нешта лепшае. Ён не пабег тады глядзець, што там за пакой і што за людзі будуць жыць з ім пад адной страхой, таўчыся на адной кухні. «Чаго я туды пабягу? Які б ён ні быў, той пакой, не мне ад яго адмаўляцца». Але калі, нарэшце, атрымаў ордэр, не сцярпеў, пайшоў паглядзець.

На званок адчыніў дзверы мужчына гадоў трыццаці пяці — сарака, у спартыўных сініх шараварах і клятчастай сарочцы-каўбойцы. Ён кінуў на Вадзіма вокам, спытаў:

— Вы да каго?

Вадзім сумеўся. Ён не ведаў, хто жыве цяпер ужо ў ягоным пакоі, і на хвіліну збянтэжыўся. Потым прамовіў:

— У мяне ордэр. Гэта трэцяя кватэра? Я на агледзіны, так сказаць...

— А-а-а... На наша месца, значыць? — Мужчына ўсміхнуўся: — Ну, то заходзьце, глядзіце,— ён шырэй адчыніў дзверы, саступіў з прахода.

Вадзім праз невялікі цемнаваты калідорчык следам за мужчынам зайшоў у пакой. Пераступаючы парог, ён адчуў, што раптам захваляваўся. Не ад таго, што баяўся ўбачыць нешта жахлівае. Не, ён ведаў, што дом гэты неўзабаве пойдзе пад знос, і таму не чакаў, што за гэтымі дзвярыма будуць гранавітыя палаты. Ведаў нават, што ў доме няма паравога ацяплення, не спадзяваўся, што на кухні будзе вада. Хваляванне гэтае было, пэўна, ад таго, што ён упершыню ў сваім жыцці атрымлівае пакой. Які б там ні быў, а свой куток. Што ні зробіш, калі ні прыйдзеш, ніхто табе не будзе шыпець услед, ніхто не папракне, што нібыта моцна ляпнуў дзвярыма альбо дужа позна паліў святло, хоць тое святло — малюсенькая настольная лямпачка ў нейкіх там сорак свячэй.

Апошнія пяць гадоў Вадзім жыў на прыватнай кватэры, у адзінокай бабулькі на ўскраіне горада. Жыццё там так агоркла яму, што перастаў паважаць літаральна ўсіх кватэраздатчыкаў,— маўляў, хапугі ўсе і паразіты, карыстаюцца людскімі бедамі ды часовымі цяжкасцямі з кватэрамі.

Праўда, ягоная гаспадыня напачатку была быццам і нішто сабе. Вадзім жыў ціха, сябры

наведваліся не часта, не варыў і не мыў дома нічога. Нават чай увечары і то піў зрэдку,— харчаваўся па сталоўках. Гаспадыні гэта падабалася. Але мінуў год, другі, і яна ўсё часцей пачала бурчаць на Вадзіма: то тым ёй не дагадзіў, то гэтым. Ён адмоўчваўся, суцяшаў сябе тым, што бурклівасць гэтая не ад злосці ці чаго іншага. Ведама, вечна адна, словам няма з кім перакінуцца, вось і бурчыць.

Відаць, таму і хваляваўся ён, пераступаючы парог (цяпер ужо свайго) пакоя.

— Ну, вось і ваша будучае царства,— гаварыў тым часам мужчына.— Плошча дванаццаць метраў з хвосцікам. Грубка-пліта дыміць, давядзецца, калі не хочаце капціцца, перакласці. Шпалеры таксама прыйдзецца паклеіць новыя. Падлогу, акно, дзверы — паднавіць, пафарбаваць. Якія яшчэ ў вас выгоды будуць? Акно, бачыце, упіраецца ў сцяну суседняга дома, так што сонца будзеце лавіць на вуліцы. Суседзі па кухні...— Ён раптам сцішыў голас і таропка зашаптаў: — Суседзі ў вас будуць цікавыя. Правільней — не суседзі, а суседка. Вось за гэтай сцяной. Жыве адна. Няблага? Канечне. Але яна — вар'ятка, алкагалічка. Адным словам, канцэртаў наслухаецеся...

Вадзім слухаў, глядзеў на таго, што, сагнуўшыся, шаптаў яму, дыхаючы ў твар, і не мог уцяміць, аб чым ён: «Вар'ятка... Алкагалічка... Пра каго ён? Навошта?»

А мужчына, рагатнуўшы, зноў павысіў голас:

— Ну, вось і ўсё. Перабіраемся мы заўтра. Не марудзьце і вы. Ордэр ордэрам, але... Пуці гасподні неіспавядзімы. Урэшце, давайце дамовімся так. Рэчаў у вас шмат? Ага, вы яшчэ ха-

ласцяк? Значыць, рэчаў няшмат. Тэк-тэк-тэк... Ну, але сёе-тое ёсць? Ну дык вось: вы прывозіце свой скарб на машыне... Вядома, трэба будзе заказаць. Прывозіце, згружаеце, а я — гружуся. Дамовіліся? Клопат усё роўна адзін... Ну, то да заўтра!..

І Вадзім апынуўся за дзвярыма. У калідоры заўважыў жанчыну, паздароўкаўся. Яна неяк баязліва кіўнула галавой і знікла за дзвярыма. «Пэўна, тая суседка, пра якую гаварыў гаспадар».

Назаўтра ён прыехаў сюды зноў. Нягледзячы на тое, што яго халасцяцкі скарб быў небагаты, машыну ўзяць усё ж давялося. Ложак, стол, стэлаж з кнігамі, пара крэслаў — вось і машына.

«Гаспадар» быў дома. Спытаў:

— З машынай? Малайчына! Як вас зваць? Вадзім? А па-бацьку? Не прывыклі яшчэ? Ага, Іванавіч... Я таксама Іванавіч. Дык вось, Вадзім Іванавіч, не будзем марудзіць. З вамі хтонебудзь ёсць? Хлопцы? Сябры, значыць... Ну, то і добра! Згружайцеся, а пасля сюды, паможаце мне. Паможаце?

— Бог ты мой, чаму ж не!

— Ну, дык тады за справу. У мяне тут усё на мазі, як кажуць, усё складзена, скручана, спакавана.

Вадзім збегаў уніз, гукнуў хлопцаў, якія ўправіліся ўжо спусціць ягоны набытак з кузава на зямлю. За якія паўгадзіны яны ўладкавалі ў кузаве ложак, шафу, швейную машыну, тахту, крэслы, табурэткі-трохножкі, посуд, усцягнулі нават нейкую трухлявую, з прагнілай задняй сценкай тумбачку. «Гаспадар» толькі бегаў вакол, прасіў:

— Асцярожней, хлопчыкі, лак не паабдзірайце. Асцярожней! Во тут посцілкай захіні-це! — І не стрываў, палез у кузаў сам.

Вадзім разлічыўся з шафёрам. Утрох яны ўнеслі ў пакой ягоныя рэчы і мэблю, сяк-так расставілі. Хлопцы схадзілі на кухню, папырскаліся там, чысцячы паліто, вярнуліся ў пакой, чакалі чаркі. Вадзім хацеў ужо бегчы ў магазін, як раптам на парозе зноў з'явіўся «гаспадар». Ён зайшоў у пакой, кінуў вакол вокам, быццам правяраючы, ці не забыўся што, крактануў:

— Ну, што вам сказаць, Вадзім Іванавіч! Пакой гэты, хоць і нягеглы, але шчаслівы. Наколькі мне вядома, за пасляваенныя гады з яго выселілася пяць ці шэсць сем'яў. Я пражыў тут пяць гадоў. Вы, трэба спадзявацца, пражывеце менш. Не агледзіцеся, як атрымаеце сапраўдную кватэру, з усімі выгодамі. Вось пабачыце! Будуюць цяпер шмат і хутка. Так што — віншую. Вось і ўсё. Засталося толькі развітацца. Як там у Чэхава? «Дарагі, шматпаважаны шкаф...» Шкафа не засталося, так што можна звярнуцца толькі да дзвярэй... Кажаце, там не развітанне, а вітанне... Ат, усё роўна! Адным словам, Вадзім Іванавіч, жывіце, значыць, пажывайце, дабра нажывайце і, вядома ж, жонку... Я чаго вярнуўся? Вам застаецца лічыльнік і вось гэтае люстра. Лічыльнік — семнаццаць рублёў, люстра некалі каштавала дзесяць, працэнтаў дваццаць на амартызацыю, значыць — восем, і ўсяго — дваццаць пяць. Калі не хочаце турбавацца, плаціце. Няма цяпер, я пачакаю.

— На такі выпадак трэба, каб былі,— сказаў Вадзім, падаючы дваццацьпятку.

— Гэта па-мужчынску і па-гаспадарску. Ну,

то бывайце! Ключы я вам аддаў? Адзін толькі? Другі, даруйце, у жонкі, я яе з хлопцам учора адправіў... Але вы не хвалюйцеся, я як-небудзь забягу, перадам...

І ён выйшаў. Калі дзверы за ім зачыніліся, Вадзім з палёгкай уздыхнуў: балбатня «гаспадара» яму парадкам надакучыла, і ён зноў, як і ўчора, падумаў аб тым, што чалавек гэты нейкі непрыемны. «А можа, таксама хвалюецца? Таксама ж пераязджае на новую кватэру... Бог з ім... Але ж пра люстра сказаць не забыўся...»

Вадзім зірнуў угору, на запыленую рагуліну пад столлю, раптам усміхнуўся:

— А што, хлопцы, не вялікую скідку зрабіў ён на амартызацыю? Думаецца, што яна мела не лепшы выгляд і шмат гадоў назад. Так што трэба было браць усе сто працэнтаў...— Ён крутнуўся на месцы, падскочыў, быццам хацеў дастаць рукою да той рагуліны, загаварыў: — Ну, віншуйце мяне. Я — гаспадар гэтых харомаў, гэтага царскага палаца. А вы, як мае сябры, будзеце мець магчымасць пераначаваць тут, а часам, пры пэўных акалічнасцях, і папрасіць мяне і яшчэ аб сім-тым...

— Не праміне́м выкарыстаць гэты літасцівы дазвол. Аднак, ваша царская светласць, пара і ў магазін. «Не думай, што мы палюбілі цябе за прыгожыя вочы...» Што, здзек з паэта? А якое можа гэта мець значэнне сёння, га? Падумай толькі, халасцяк атрымаў асобны пакой! Скажы, ці часта здараецца такое ў наш век?!

— А тое, што, на добры лад, тут трэба было б зрабіць хоць мінімальны парадак, вас не турбуе?

— Божа мой, знайшоў чым палохаць. Дзе венік, дзе вядро, дзе ануча і «прочы мяккі інвентар», як казаў наш камендант Мацей Сідаравіч?

— У тым-то і справа, што ні веніка, ні вядра, ні анучы ў мяне пакуль няма.

— Але ж ёсць суседзі. Дарэчы, слухай, чаму нікога не было, як мы насіліся з тымі тумбачкамі і іншым смеццем? Чаму ніхто не пацікавіўся, што за чалавек усяліўся ў гэты пакой?

Вадзім выйшаў у калідор і пастукаў у суседнія дзверы. Яны прыадчыніліся, і адтуль высунулася вядро з устаўленым у яго венікам. Вадзім ледзь паспеў ухапіць вядро за вочапку, як дзверы зноў зачыніліся. Ён няўцямна паціснуў плячыма, вярнуўся да хлопцаў.

— Ну што? Хто там?

— Вось вам цвёрды і мяккі інвентар,— махнуў Вадзім рукой.— Я ў магазін.

Неўзабаве на патэльні сквірчэла сала — каля яго завіхаўся Вадзім, хлопцы адкрывалі бутэлькі, рэзалі хлеб. Па шклянкі зноў давялося ісці да суседкі.

Вадзім яшчэ больш нерашуча пастукаў у дзверы. Колькі хвілін за імі нічога не было чутно. Пасля пачулася, як заскрыпеў ложак, як соўгаліся па падлозе ногі, шукаючы тэпці, нарэшце дзверы адчыніліся. На парозе стаяла жанчына гадоў пад шэсцьдзесят, амаль бабулька, схуднелая, з хваравітым бляскам у вачах.

— Даруйце, я зноў да вас. Можа знойдзецца пара шклянак?

Бабулька павярнулася, пакорпалася хвіліну, відаць, у тумбачцы, падала Вадзіму тры шклянкі і відэльцы:

— Вам жа тры трэба. Вас жа трое. Сценка тонкая, фанерная, я чула ўсё.

— Вялікае дзякуй. Можа б, і вы зайшлі да нас? Я ваш новы сусед. Толькі што перабраўся, дык хлопцы кажуць, замачыць трэба. Пойдземце?

— Каму ж я там патрэбна!

— Навошта ж так! Калі ласка, заходзьце. Мы і віна бутэльку захапілі.

— І самі адолееце. Дзякую,— і яна зачыніла дзверы.

Тое імправізаванае наваселле зацягнулася. Вадзіму давялося збегаць у магазін яшчэ раз — каб не рассыхалася яшчэ болей падлога, каб не было скразнякоў, каб у хаце заўсёды былі рады гасцям. Гутарылі, жартавалі, спявалі амаль да поўначы.

Уначы Вадзіму не спалася. Можа, ад таго, што выпіў, а можа, і ад таго, што на новым месцы. «Чалавеку заўсёды не спіцца на новым месцы...» Там, дзе ён жыў раней, было ціха, як у вёсцы, а тут непрывычна грукаталі за сцяной трамваі, прапаўзалі грузавікі — аж дрыжалі, здавалася, сцены. Вадзім ляжаў і думаў аб тым, што цяпер ён зусім ужо сталы чалавек, што цяпер ужо сапраўды не грэх падумаць і аб тым, як казала маці, каб пашукаць сабе гаспадыню.

Не спалася. Раптам яму падалося, што нехта плача. Павярнуўся на бок, прыслухаўся. Сапраўды, чуліся ўсхліпы. «Суседка? Чаго яна?» Зноў прыслухаўся, але нічога не было чутно. «Відаць, падалося...»

Сярод ночы прахапіўся ад таго, што з-за сценкі-перагародкі пачулася песня — журботная, жаласлівая. Песня была знаёмая, ён чуў яе ў дзяцінстве — пасля вайны яна была ў пашане ў жанчын-удоў, але слоў ужо не памятаў. Прыслухаўся:

Прывыкайце, чорны вочы,
Адны начаваці:
Няма майго міленькага,
Не з кім размаўляці...

Далей слоў не разабраў — суседка спявала сцішана, нібы ў падушку. Пасля яна, відаць, прыўзняла галаву, бо ён зноў пачуў:

Няма майго міленькага,
Няма гаспадара,
Каму бы я пасцельку
Пухову паслала...

Песня скончылася, а Вадзім усё ляжаў і думаў аб тым, што ўсё гэта значыць — і той плач, і гэтая паўзабытая песня сярод ночы. Прыгадваліся словы «гаспадара»: вар'ятка, алкагалічка...

Заснуў зноў толькі пад раніцу.

Раніцой, калі ён з ручніком цераз плячо выйшаў на калідор, суседка была на кухні — штосьці мыла ці чысціла. Згледзеўшы яго, ціхком шуснула ў свой пакой. Вадзім нічога не разумеў. «Баіцца мяне? Чаго? А можа, крыўдзіцца, што мы ўчора пазнавата шумелі?»

І ён не рашыўся занесці ёй узятыя ўчора шклянкі і відэльцы — пакінуў на кухні на падаконніку...

Мінуў які месяц. Вадзім пакрысе асталёўваўся на новым месцы. Купіў тахту — «для выпадковых начлежнікаў», кухонны столік, сякі-такі посуд. Памаленьку прывыкаў да сваёй новай ролі — гаспадара пакоя. Толькі суседка паводзіла сябе па-ранейшаму дзіўна. На кухню выходзіла толькі тады, калі яго там не было. Паяўляўся ён — яна хуценька знікала за дзвярыма свайго пакоя. Вадзім ніяк не мог уцяміць,

чым мог яе пакрыўдзіць. Часта перад сном, калі горад паступова аціхаў, калі радзей грукаталі за акном трамваі, ён чуў, як яна таксама ўладкоўвалася спаць, як часам аб нечым размаўляла сама з сабой — ціхенька-ціхенька. «Што з ёй? Чаго яна?» Пытаць не рашаўся. «Ці мала што магло быць у чалавека! Яшчэ пакрыўдзіш незнарок...»

І вельмі здзівіўся, калі аднойчы яна сама зайшла да яго, моўчкі паклала на стол пяцьдзесят капеек.

— Завошта? — толькі і змог спытацца Вадзім.

— За святло,— адказала яна.— Лічыльнік жа ў нас адзін. Калі мала, дык скажыце.

— Ну, што вы! Колькі вы таго святла паліце! Я нешта і не бачыў ні разу, каб яно ў вас гарэла. Ды вы сядайце, сядайце,— загаварыў ён, бачачы, што яна памкнулася да дзвярэй.— Сядайце, калі ласка. А то я ўжо думаў, што пакрыўдзіў вас чым. Жывём побач, а... Я нават не ведаю, як вас зваць.

— Цёткай Соняй завуць.

— А мяне Вадзімам. Хлопцы дык тыя проста Дзімкам клічуць,— і, не ведаючы, што сказаць яшчэ, ён зноў паказаў на грошы: — А вы, праўда, не турбуйцеся. У вас жа, пэўна, і пліткі няма. Керагаз, бачыў, стаіць на кухні.

— Пліткі няма, але ўсё роўна на пяцьдзесят капеек нагарыць... У вас жа таксама лішняя капейка не валяецца... Ён сам прыходзіў, а вы адмаўляецеся.

— Ды не кажыце мне «вы»! Завіце проста Вадзімам альбо Дзімам. А хто — ён? — спахапіўся Вадзім.

— А той, што жыў тут раней.

— А-а-а... І ўсё ж вы не турбуйцеся. Якія тут грошы, бог з імі!

— А вось гэта і дарэмна, дзіцятка,— раптам зусім ласкава сказала цётка Соня.— Яны ж, пэўна, табе не дарма даюцца. А мне хапае, пенсія не маленькая...

— Даруйце, толькі мне ўсё ж няёмка...

— Ладна, ладна... А ты, дзіцятка, таксама даруй мне. Я тут зусім знелюдзела, як у турме... Думала, што і ты, можа...— і, не дагаварыўшы, выйшла.

З таго дня Вадзім заўважыў, што цётка Соня перамянілася. Яна болей не ўцякала з кухні, калі ён выходзіў туды па якой патрэбе, спяшалася паздароўкацца першай, загаворвала.

Убачыўшы аднойчы, як ён, сагнуўшыся над тазікам, выкручваў памытую сарочку, яна накінулася на яго:

— Не мужчынская гэта работа. Саромецца не трэба. Памыць што, у хаце прыбраць — ты скажы. Адзін жа во жывеш. Маці хоць далёка?

— Не вельмі далёка. Скора прыедзе паглядзець, як я тут уладкаваўся. А памыць... Дзякую, цётка Соня, што тут у мяне мыць? Пасцель я ў пральню здаю, а дробязь якую, дык рукі не адваляцца.

— Ну, глядзі, глядзі. Калі што якое — скажы. Я магу яшчэ, дні і ночы вылежваюся.

Неяк дзверы Вадзімавага пакоя прыадчыніў «гаспадар»:

— А... Вадзім Іванавіч, так? Не забыўся, значыць. Добра, што вы дома. Сходзім з вамі пад паветку. Я там сёе-тое не забраў, дык...

— Дык, пэўна ж, і ключ яшчэ ў вас.

— Ключ, праўда, у мяне, але я тут ужо не гаспадар. Так што сходзім разам.

У паветцы ён выцягнуў з-пад планкі сякеру, здзьмухнуў з яе пыл:

— Ага, вось сякеру трэба забраць. Хай там у нас усе выгоды, але ж у гаспадарцы спатрэбіцца. Вы ўжо выбачайце, Вадзім Іванавіч, вам самім трэба будзе купіць. Бачок пад газу таксама спатрэбіцца. Раптам «блакітнае полымя» згасне — керагаз трэба будзе запаліць. Ну, вось і ўсё, здаецца. Ага, яшчэ падвазонніцу забяру. Вам жа яна не спатрэбіцца, вазонаў, пэўна ж, заводзіць не збіраецеся. Тэк, тэк, тэк... Яшчэ дровы...— Ён паглядзеў на дзесятак тоненькіх метровых круглячкоў.— Мне яны, вядома, ужо не трэба. Хіба толькі скляпок у двары будзем капаць — пад бульбу ды капусту. Не сярдуйце, Вадзім Іванавіч, вам жа ўсё роўна давядзецца купляць, дык... Тут з кубаметр будзе, дык вы рублі тры кіньце. А я ўжо на скляпок дошак дзе-небудзь расстараюся.

Вадзім адразу ж дастаў і падаў яму тры рублі (пасля шкадаваў, што зрабіў так: хай бы забіраў з сабой тыя круглячкі), прамовіў:

— У вас усё? Даруйце, я спяшаюся.

У калідоры яго сустрэла цётка Соня. Яна, відаць, бачыла ў акно, хто прыходзіў, бо, зірнуўшы на Вадзіма, раптам сказала:

— Не трэба злавацца, дзіцятка. Не варты ён таго. Каб ты ведаў, колькі я ад яго нацярпелася. І ад жонкі яго. Я, Дзіма, старая, дурная баба, але разумею — кепскі ён чалавек. Пяць гадоў пражыў тут, а суседзяў так і не нажыў...

— Хто ён, цётка Соня?

— А хто ж яго ведае. Знаю толькі, што Антонам зваць. А жонку — Веркай. Недзе там працуе, дзе дрэвы па вуліцах садзяць.

— Урэшце, ліха з ім!

— Ліха то ліха, але ж... Ты думаеш, я не ведаю, што ён табе пра мяне нагаварыў? І вар'ятка, і п'яніца, і ўсё такое... Бог з ім. Але ж і там ён з людзьмі будзе жыць, хай не на адным калідоры, дык пад адной страхой, у адным доме... Колькі я за ім пападбірала, пападчышчала. А ўсё роўна крыўдзіў, здзекаваўся, не дай бог іншаму так. Ці ж я яму рады дам? Паклічу міліцыю, а ён міліцыянеру: «А вы спытайце ў яе даведачку, з Навінак...» А я і праўда лячылася ў той бальніцы. Заплачу я ды пайду. А ён рагоча ўслед: «Ну што, старая качарга, з'ела? Будзеш клікаць яшчэ?!» А то і ўдарыць... Добра, сынок у яго харошы расце, гадкоў дзесяць будзе. Ён часам перад бацькам за мяне заступаўся. Дык бацька і яму штурхаля дасць... Тут жа ўсё чутно, перагародка тонкая, фанерная...

Перад водпускам Вадзім паклікаў цётку Соню:

— Пасядзіце са мной, калі ласка. Заўтра ў дарогу. Пуцёўку дастаў, паеду да мора.

— А дзе ж твае хлопцы? Што ж яны не прыйшлі праводзіць?

— Хто іх ведае. Зніклі недзе. Ніводнаму не дазваніўся.

Налілі віна.

— Ну, то няхай добра адпачываецца,— цётка Соня падняла кілішачак, выпіла да дна, павясковаму пырснуўшы кроплямі ў столь.— Ты ж глядзі там, у мора тое асабліва не лезь. Ці далёка да бяды...

— Ну, што вы, цётка Соня! Урэшце, хто не плавае, той не ўтопіцца. А я якраз і не ўмею.

— Яно і добра. Зайшоў па пояс, паплёхаўся — і тое самае.

— Вядома.

Вадзім зноў напоўніў яе напарстак. Цётка Соня ўбачыла, запярэчыла:

— А мне, мусіць, і хопіць. Галава стала слабаю. Ад думак, пэўна. Як вазьму да галавы, дык забудуся, і сама з сабою паразмаўляю, і наплачуся. Пэўна ж, чуў? Ты ўжо на мяне не крыўдуй, можа, і спаць часам перашкаджаю...

— Я й не чуў ніколі нічога. Як лягу, дык адразу і засынаю,— чамусьці схлусіў Вадзім.— Толькі аднойчы чуў, як вы песню спявалі. Той, першай ноччу, як толькі перабраўся сюды. Вы ўжо не злуйцеся, я тады нават падслухоўваў. Дужа ўжо спадабалася тая песня.

— А божа ж мой — спадабалася! Вы ж цяпер зусім іншае спяваеце. А то старынная, пэўна, песня. Памятаю, маці мая, нябожчыца, спявала, калі тата з вайны не вярнуўся, з той яшчэ... А цяпер я спяваю. Многа гадоў спяваю.

І цётка Соня ўсхліпнула, пацягнула да воч хусцінку.

— Не трэба, цётка Соня. Супакойцеся, калі ласка. Навошта плакаць?

— Я і спакойная, дзіцятка... А песня тая... Што ж мне яшчэ спяваць, адзінокай і нікому непатрэбнай, усім абрыдлай. І ты вось пажывеш, ажэнішся, дай бог, дык тады на мяне, старую, таксама будзеш касавурыцца, станеш сварыцца. Ведама, каму люба старое.

— Навошта ж так, цётка Соня?

— А ты не крыўдуй. Ты і сам яшчэ не ведаеш, які з цябе чалавек будзе. Пакуль малады, пакуль жывецца лёгка, бесклапотна, дык і ты для ўсіх добры, і для цябе ўсе добрыя... Хто яго ведае, можа, і ў яго было ў жыцці што горкае і цяжкае... Але ж не — калі чалавек сам гора зазнаў, дык ён і другому паспагадае...

Цётка Соня раптам кульнула ў рот свой напарстак, адшчыкнула хлеба, уздыхнула:

— А песня, Дзіма, хоць крыху палёгку душы прыносіць... Ты думаеш, што я так увесь век адна жыла? Не, дзіцятка, была некалі ў мяне сям'я, быў муж і трое дзетак. Дзве дзяўчынкі і хлопчык, Сяргейкам звалі. Цяпер якраз з цябе быў бы. Была сямейка і не стала. У адзін дзень не стала...

Яна пацягнулася зноў да насоўкі, але махнула рукой, папрасіла:

— Дай лепш, Дзіма, папяроску. Я зрэдзь часу куру. Памагае быццам...

Цётка Соня не вельмі ўмела прыкурыла, выпусціла дым пад стол:

— Стаіць той дзень у мяне ўваччу і, мусіць, заўсёды будзе стаяць, пакуль жыць буду... Не памятаю, куды я ў той дзень адышлася з дому. А прыбегла назад — ні хаты, ні сямейкі. Ні Сяргейкі, ні Светкі з Ніначкай. Ніначцы два годзікі толькі мінула... Колькі ж я пагаласіла тады, колькі валасоў на сабе папарвала! Былі дзеткі, была сямейка і нікога не стала, хоць нікога сама і не пахавала...

Яна зноў зацягнулася папяросай, перадыхнула.

— Горад увесь палаў. Людзі разбягаліся хто куды. Паднялася і я, пайшла куды вочы глядзяць. Прыбілася за горадам да нейкага лазарэта вайсковага. Раненыя на калёсах едуць, хто мацнейшы — пеша ідзе, за драбіны трымаецца. Дактары і санітаркі побач плятуцца. Ну, і я паплялася. У нейкім ляску спыніліся перадыхнуць. Мне кінуў нехта ванзэлак трантаў розных, вядро ў рукі сунуў: «Пасціраймце, на бінты пайдзёць».

Цётка Соня глянула на згаслую папяросу, пацерла яе ў пальцах, кінула ў попельніцу.

— Вымыла я тыя транты, на кустах высушыла... Ну, і засталася там, пры лазарэце. Пасля на нейкі поезд узбіліся, заехалі аж за Урал. Там і вайну перабыла, мяне за той час на санітарку крыху падвучылі. А скончылася навалач — сюды зноў пацягнула, дадому. Жыла ў зямлянцы, працавала ў бальніцы. Пасля ў барак перасялілі, ну, а потым — сюды. Так і да пенсіі дажыла. Жыла, а ўсё душа балела, усё не верылася, што нікога не засталося, усё думалася, што, можа, бомба тая на пустую хату звалілася, можа, паспеў муж выскачыць, дзетак вынесці... Вось і плачу. Дома плачу, бо і магілак тых нідзе няма, дзе б паплакаць можна было...

Пасля цётка Соня расказвала пра тых, хто жыў тут, у гэтым Вадзімавым пакойчыку, раней, гаварыла пра нейкую маладую вясёлую пару, пра адзінокую бабульку — былую артыстку-музыкантку, успамінала тых, каго выходжвала-няньчыла ў тым вайсковым шпіталі і ў бальніцы, хваліла Вадзіма, казала, што зайздросціць ягонай маці, у якой ёсць такі сын, з кім яна можа спакойна перачакаць сваю старасць.

Вадзім слухаў усё гэта моўчкі. Слухаў, пэўна, няўцямна, бо раптам злавіў сябе на тым, што думае зусім пра іншае, пра тое, што да гэтага часу жыў ён, мусіць, нейк не так, як трэба было б, што за свае дваццаць пяць гадоў не вельмі задумваўся над тым, што чалавек жыве не адзін, не сам па сабе, а побач з іншымі людзьмі, часам, здараецца, нават на адным калідоры, і што ўсюды і заўсёды трэба заставацца чалавекам, не страціць у душы таго, што назы-

ваюць чалавечай шчырасцю, цеплынёй і спагадай...

Цётка Соня, урэшце, паднялася:

— Ну, то я пайду, дзіцятка. А ты таксама лягай. Перад дарогай яно і адпачыць няблага.

Вадзім прыбраў са стала, расчыніў акно — здаецца, і курылі мала, а пад столлю аж сінела, паслаў пасцель. Але лёг не адразу: доўга сядзеў на шырокім, як стол, падаконніку і слухаў шум начнога горада.

Ноччу ён стараўся думаць пра сяброў, пра адпачынак, які пачынаецца заўтра, пра мора, якога ніколі не бачыў.





## НАД ПОЛЕМ КРЫЧАЛІ ВАРОНЫ

Хавалі Габрусіху чужыя людзі, бо радні ў яе не было. У апошнюю дарогу яе сабралі старая Іваніха і Марыля — суседкі. Іванішын сын Васіль зрабіў дамавіну. Ён жа завёз нябожчыцу і на могілкі. Калі забівалі цвікамі вечка, калі апускалі дамавіну ў дол, ніхто не галасіў. Толькі Іваніха, сыпнуўшы ў дол прыгаршчы жвіру, які гулка забарабаніў па дошках, сказала:

— Хай жа табе добра тут будзе, Ганначка! Можа і я хутка збяруся.

Сыпнулі людзі ўслед за Іваніхай па жмені пяску, пастаялі крыху моўчкі і разышліся, пакінуўшы на могілках Васіля з сынам-падлеткам — насыпаць над магілай грудок і паставіць крыж.

Я таксама пайшоў, але не ў бок вёскі, а пад Глінішча...

Памерла бабка Габрусіха непакутліва і нечакана. І дня не памэнчылася. Яшчэ заўчора,

казалі, выходзіла на вуліцу, сядзела каля Іваніхі з бабамі. Толькі і паскардзілася, што няможацца нешта. А назаўтра і памерла, у самы абед. Іваніха аж не паверыла, думала — заснула суседка, разбудзіць яшчэ спрабавала...

Сцежка вывела мяне пад Смалякоў роў, на грудок, парослы калекамі-сасонкамі ды ядлоўцам. Сярод цвітучага жаўтамоху траплялася тут лапінкі чарніц — ніжэй, там, дзе туліліся кволыя, пакручастыя, хоць і пярэстаркі, бярозкі. Я сарваў некалькі ягад — яны былі дробныя, засмяглыя — ведама, на санцапёку, прысеў на камень, спусціўшы ногі ў размытую вясновай паводкай баразну-канаўку. За канаўкай, падступаючыся да самага жаўтамоху, стаяла жыта — рэдкае і чэзлае, каліва каліва гукае. На добры лад, дык і ці трэба было б забірацца з трактарам так высока, так ашчадна абворваць гэты пясчаны грудок, на якім быццам бы былі некалі могілкі. Але ж — абворвалі, хоць ніколі тут і не расло нічога. Хіба толькі грэчка.

Прыгравала сонца. Вакол стаяла цішыня і млоснасць. Здавалася, час спыніўся, растварыўся ў гэтай душнай, даўкай — хоць бы ветрык дыхнуў! — млявасці. І думкі ў галаве плылі такія ж млявыя, самотна-шчымлівыя.

Памерла бабка Габрусіха. І над яе магілай ніхто не галасіў, ніхто не спяваў...

Дзіўна: то ж сапраўды не спявалі. А раней жа, памятаю, колькі ні хавалі ў нашай вёсцы людзей, заўсёды над імі спявалі. І спявала сама... Габрусіха. Малечай будучы, мы нават здзіўляліся: чаму гэта так, што ўсе плачуць, а яна, бабка Габрусіха, спявае нейкую «алілую». Падраслі — даведаліся, што некалі бабка Габрусіха спявала ў царкоўным хоры і там навучы-

лася гэтай самай «алілуі». Так і спявала яна над усімі нябожчыкамі — прасілі яе аб гэтым ці не. А сама вось памерла — і ні галашэнняў, ні спеваў...

Я дастаў папяросу, паспрабаваў закурыць, але не курылася — пэўна, ад таго, што добра-такі прыпякала сонца. Вакол было ціха, як уначы. Толькі са Смаляковага рова часам даносілася сонная, лянівая важданіна птушак.

Памерла бабка Габрусіха...

Яе хата была непадалёк ад нашай. І я памятаю бабку Габрусіху, пэўна, з таго ж самага часу, як і сваю маці. Памятаю яе ўнука Алёшку — майго равесніка і сябрука. Быў у мяне на самым пачатку жыцця і яшчэ адзін сябрук — Толік дзядзькі Якуба. З імі я і сябраваў — па чарзе. Не паладжу з адным, іду да другога. Калі я прыходзіў да Алёшкі, бабка Габрусіха частавала нас смачнымі ранетаўкамі, агрэстам, чырвонымі, але кіславатымі гронкамі парэчак. Саміх у гарод нас яна не пускала — нават Алёшку. А калі мы ўсё ж туды патыкаліся, сярдзіта крычала і рабіла выгляд, што шукае каля плота крапівы. Мы выкульваліся з агарода на двор. Бабкі не баяліся. Ведалі, што праз хвіліну яна сама прынясе нам у прыполе яблыкаў, агрэсту, парэчак. Прынясе і скажа:

— Во, ешце, а самі не лезьце. А то вы не так тых парэчак напука́еце, як шкоды наробіце. Агурочнік пасцягаеце, фасолю збэрсаеце...

Раптам нада мной пачулася прарэзлівае «кар-р-р! кар-р-р!» Крыкі былі трывожныя, заклікальныя — сюды ўсе, хто чуе. Сапраўды, праз хвіліну нада мной лятала ўжо некалькі птушак: «кар-р-р! кар-р-р! кар-р-р!» Я зварухнуўся. Вароны закрычалі яшчэ галасней, але,

не скончыўшы нада мной круга, падаліся ў кусты, за Смалякоў роў.

Ага, значыць, напалохаў іх я: не прывыклі бачыць, каб тут, на гэтым грудку, хто-небудзь сядзеў. А можа — на бяду? Вароны крычаць на бяду. Гэта запомнілася з дзяцінства. Глупства, канечне...

Бабка Габрусіха... Дзіўна — Габрусіха ды Габрусіха. А звалі яе, аказваецца, Ганнай. Помніць пра гэта, мусіць, адна Іваніха. Разам гулялі ў дзеўках... Вароны крычаць на бяду... Пры чым тут вароны? Глупства нейкае лезе ў галаву! Можа, ад гарачыні?

Бабка Габрусіха — бабка Ганна. Не, нязвычна. Усе звалі яе Габрусіхай. Пэўна, бацька ці мужык зваўся Габрусём. У яе быў Алёшка, унук Алёшка, мой равеснік і сябрук. Алёшкі даўно няма. Не ўнук пахаваў бабку, а яна ўнука. А я жыву. І мог мець, на добры лад, ужо сына. Большага, чым быў тады Алёшка. Я — выжыў, а Алёшка — не. Чаму? Мы не маглі тады ўратавацца самі. Нас ратавалі. Мяне ўратавалі. Хто? Усе, каго я ведаў, і каго не ведаў, і каго не ўведаю ніколі. Ўратаваў дзед Кароль, дзядзька Якуб, бабка Габрусіха... Я ж памятаю, добра памятаю, хоць і меў тады ледзь-ледзь пяць гадоў...

За могілкамі, на якіх сярод сасонніку бялелі, сівелі і чарнелі вялікія і малыя крыжы, быў у нас кар'ер. Незадоўга перад вайной адтуль вазілі пясок — гэта тады, калі ў нашай вёсцы, ратуючыся ад патопу, брукавалі вуліцу. (Цяпер той кар'ер амаль зруйнаваўся: берагі апаўзлі, усё вакол зарасло хмызам). У тым кар'еры нас і ўзялі ў палон: мяне, маіх двух братоў і дзвюх сястрычак. Старэйшаму з нас, Косціку, было

дванаццаць, малодшаму, Сашку, тры. А між імі быў я і дзве сястрычкі.

Немцаў было таксама пяцёра. Не, пяцёра было ўсіх, а так — чацвёра немцаў і адзін паліцай. Гэта я таксама добра запомніў, бо нават Сашка, які тады яшчэ і гаварыць толкам не ўмеў, ведаў ужо, што калі ў чорным — гэта паліцаі, а калі ў шэрым — то немцы. Чорных мы, здаецца, баяліся болей, чым шэрых. Пэўна, таму, што чорныя гаварылі па-нашаму, і таму, здавалася, яны ўсё ведаюць, ад іх не схаваешся, не ўцячэш.

Як мы апынуліся ў тым кар'еры, я, праўдзе, дык і не памятаю. Памятаю толькі, як ішлі адтуль у вёску, як стаялі на Крыжавых. А як і калі забрылі мы туды, у той кар'ер, не засталося ў памяці. Пазней маці расказвала:

— Прачнулася я тою раніцаю, а мне як быццам хто на вуха шэпча: ратуй, Марыля, дзяцей. Чаму ў галаву тое ўбілася, дык і сама не ведаю. Рупіць усё ды рупіць. Можа, сасніла што? Ну, я і паадзявала вас, паабувала, Косціку — старэйшы ж самы, разумееў ужо — пасцілку дала і выправіла. Вядзі, кажу, сынок, меншых за могілкі, у яму тую, адкуль людзі пясок вазілі, гуляйце там. Пакуль я не прыбягу, не вылазьце, і сам па кустах не бегай. Па кустах страляюць. А я з Лёнікам дома буду. Калі што якое — дык хоць вы ўцалееце...

Ляпілі мы ў тым кар'еры печкі, пяклі з пяску бліны. Часам не мірыліся, і тады нас Косцік страшыў:

— Не раўсці! Немцы пачуюць — паб'юць!

Мы на хвіліну змаўкалі, насцярожваліся, ці не ідуць тыя немцы, але праходзіла мінута-другая — і мы зноў валтузіліся, сварыліся з-за

ямак і печак, плакалі, а калі каму перападала, здавалася, болей і калі цябе апаноўвала вялікая крыўда, гукалі на дапамогу маму.

У гульнях, у спрэчках са слязьмі, у крыўдзе на Косціка, які часам не шкадаваў нам і балючага кухталя, мы і не пачулі, як усчалася страляніна. Усчалася яна, відаць, далекавата, і напачатку тут, у яме, за сасоннікам, мы, пэўна, і не маглі яе ўчуць. Але раптам над намі нешта прагуло, а пасля ззаду, недзе за ямай, цяжка вухнула. Я, малы Сашка, Валя і Ніна не паспелі зразумець, што гэта такое, як Косцік усхапіўся на ногі, згроб нас у кучу і папхнуў пад высокі абрывісты бераг — пад той, з якога боку прыляцела тое, што прагуло над намі і цяжка вухнула.

— Сціхніце і сядзіце тут, як мышы! — загадаў нам Косцік.— Немцы страляюць. З гарматаў. Міна ззаду разарвалася.

Мы спішыліся, прыціснуліся адзін да аднаго і сапраўды сядзелі, як тыя мышаняты ці птушаняты. Над намі яшчэ некалькі разоў прагуло-прапішчала, а пасля наступіла цішыня. Мы напружвалі слых, але нічога не было чутно. Нам надакучыла куксіцца пад абрывам — туды не заглядвала сонца, там было сыравата і халаднавата, і мы парываліся зноў на сярэдзіну, дзе быў сухі жоўты пясок, але Косцік шыпеў на нас:

— Сціхніце! Не варушыцеся! Зараз пачнуць зноў страляць!

І сапраўды, неўзабаве над нашымі галовамі заціўкалі пчолы — цэлы рой. Ціў-ціў-ціў! — праляталі яны над намі. Мы задзіралі галовы, узіраліся, але нічога не бачылі. А Косцік сцябаў нас:

— Дурні! Якія пчолы? Гэта ж кулі ляцяць! Ляцяць і ціўкаюць.

Мы смяяліся. Скажа таксама — кулі! Хіба кулі ціўкаюць? Хлусіць, канечне, Косцік. Выхваляецца, што старэйшы, палохае нас, каб сядзелі ціха, каб яго слухаліся. Добра, будзем слухацца...

Ціўканне тое як нечакана пачалося, так нечакана і скончылася. І як ні прымушаў нас Косцік сядзець пад абрывам на намоклай посцілцы, мы не слухаліся, румзалі, пагражалі пажаліцца маме. Ён махнуў рукой:

— Ну, ладна, ладна: калупайцеся ў пяску. Толькі бліжэй да гэтага берага будзьце. Чуеце? Каму кажу!

Мінула, здавалася, шмат часу. Валя і Ніна паспелі ўжо «выпаліць» у печы, прыгатаваць «сняданне», запрашалі нас — мяне і Сашку — «да стала»: мы, мужчыны, «хадзілі касіць», а пасля «ездзілі ў дровы». Але «паснедаць» мы не паспелі. На беразе раптам пачуўся тупат ног. Мы задзерлі галовы і аслупянелі: над абрывам стаяла пяцёра фрыцаў. Яны трымалі ў руках жалезныя рагаціны — пасля я даведаўся ўжо, што тыя рагаціны называліся аўтаматамі — і пазіралі на нас. Відаць, іх здзівіла тое, што мы адны, без дарослых.

Паліцай падняў рагаціну, сказаў:

— Рукі ўверх!

Косцік устаў і падняў рукі. Немцы зарагаталі, загергеталі:

— Пуф-пуф! Парцізан!

Паліцай зноў сказаў:

— Вылазьце!

Косцік ускарабкаўся наверх, стаў перад немцамі. Рук ён не апускаў. Немцы браліся за

жываты ад рогату, паўтаралі свае «пуф-пуф». А паліцай махнуў нам рукой:

— А вы? Вылазьце! Ды хутчэй!

Косцік таксама павярнуўся да нас, сказаў:

— Чаго расселіся? Вылазьце! Ніна, памажы Сашку!

Мы палезлі наверх, але самі вылезці не маглі — бераг быў круты, пясок абсыпаўся, і мы спаўзалі ўніз. Тады да нас скочыў немец і павыкідаў на бераг — аднаго за адным.

Мы выйшлі з сасонніку на леташняе бульбянішча і спыніліся, бо спыніліся немцы і паліцай — яны засталіся стаяць на ўзмежку...

Ага, вось чаму мне ўбіліся ў галаву тыя вароны! Так, так, тады таксама над полем крычалі вароны, крычалі гэтак жа трывожна і заклікальна — нібы збіралі пасля пярэпалаху сваякоў і блізкіх...

— Як прозвішча? — спытаўся паліцай.

— Вашкевічы,— адказаў Косцік.

— Дзе бацька?

— Тата на фронце.

— А дзе партызаны?

Косцік маўчаў.

— Што маўчыш? Ёсць у вашым лесе партызаны? — паліцай павысіў голас.

Мы зарумзалі. Косцік сыкнуў на нас, прамовіў:

— Не ведаю, дзядзечка. Цяпер грыбоў няма, дык я ў лес не хаджу...

— А ну — марш!

Мы пайшлі ўніз, да вёскі. Пакуль узбіліся на мяжу, я, Сашка, Валя пагублялі галёшыкі. Я хацеў выцягнуць свае з гразі, каб несці ў руках, але немец балюча піхнуў аўтаматам, закрычаў:

— Шнэль, шнэль! Цурук!

Вядома, тады я не ведаў, што азначаюць гэтыя «шнэль» і «цурук», але подбегам кінуўся да Косціка, які ішоў першым. Немец зарагатаў:

— О, я, я! Бегам, бегам!

Калі ўжо адышліся далекавата такі ад могілак, Ніна раптам спынілася:

— Косцік, мы ж там пасцілку забыліся. Мама крычаць будзе. Я збегаю,— і яна кінулася назад.

Дарогу ёй перагарадзіў той жа немец, што падганяў і мяне:

— Цурук!

А паліцай дадаў:

— Ты куды? Назад!

— Мы там посцілку забыліся, дзядзечка, я збегаю... Я хуценька...

— Марш назад!

Ніна заплакала, паплялася апошняй, узяла на рукі Сашку, які выбіўся з сіл.

Мы мінулі Сялібную, аселіцу, перабраліся цераз рачулку, што цякла ля самых гародаў, і выйшлі якраз да лазні дзеда Караля...

Лазня дзеда Караля... Сюды я часта прыбягаў «памагаць» дзеду грэць гэтую лазню. Дзед Кароль быў добры, не праганяў мяне. Толькі тады, калі ён выкочваў з каменнай печы чырвоныя, распаленыя да жаўцізны валункі і вялізнымі абцугамі апускаў іх у бочкі з вадой, адганяў мяне:

— Брысь, жэўжык, а то і да бяды недалёка.

Далёка я не адбягаўся: дужа ж цікава было паглядзець, як з бочак узляталі спачатку пырскі, а пасля над імі ўзнімаўся вялізны слуп пары. Калі ўсе камяні аказваліся ў бочках, дзед Кароль зноў дазваляў падысці бліжэй. Я пад-



# НА ЗАХОДЗЕ СОНЦА

Трываць больш Сцяпан не мог: ехаў да сына. З таго дня, калі ўведаў ён, што прыязджаў сын у вёску, але спыніўся з машынай каля цёткі Альжбеты, а да яго, у бацькаву хату, нават не зайшоў, не пакідае Сцяпана пачуццё крыўды. Як абарвалася, заныла нешта ў грудзях у той дзень, так і сёння ные, спакою не дае. Як жа гэта так, каб сын, адзіны ўжо цяпер сын, выракся, адцураўся бацькі? Ну, тады, па першым часе, пад гарачую руку мог і выкінуць такое — не зайсці ў бацькаву хату. Пэўна ж і Альжбета напляла ў вушы, нагаварыла. Але ж колькі часу прайшло, а ён і вачэй не паказвае. Дзе там — нават пісьма не прыслаў.

«Каб жа яшчэ не людзі... Хіба ж я сляпы ці глухі! Яны ж усе мае костачкі паспелі перамыць. Хіба ж я не ведаю, што яны кажуць, згледзеўшы мяне на вуліцы? Пры мне толькі ацікаюць, быццам я маленькі ці дурны. Каб жа яшчэ дачка, дык хоць меней крыўдна было б.

Яны ж вечна за матку стаяць. А ён жа сын, мужчына ўжо, сам сына мае. Няўжо ж не разумее...»

І доўга думаў Сцяпан, чаму так сталася, калі прагледзеў тое, што сын адышоў ад яго, перастаў разумець і цяпер так балюча крыўдзіць бацьку.

Яшчэ балючай было Анюце. Хоць і не абмовіўся з ёю Сцяпан ні словам пра сына, хоць і не ўспомніў ні разу, сама бачыць і разумее, усё пра адно неадступна думае. Не так па сабе душа баліць, як па Сцяпану. Колькі разоў парывалася распытацца ў яго, супакоіць, суцешыць, а чым? Не знаходзілася ў яе такіх слоў. Ды што яна магла сказаць яму? Хіба ж не сама вінавата ў тым, што пакутуе Сцяпан і яна разам з ім, што ні ён, ні яна на вуліцу не могуць выйсці, з людзьмі пасядзець? Сама ж на свае вушы чула на трэці дзень, як прыйшла сюды,— Манька Тромпелева на сваім агародзе гаварыла цераз плот суседцы, Міхаліне Івашынай: «Няма ў бабы ні сумлення, ні сораму. Другая б хоць пад старасць супакоілася, а гэта як змаладу круцілася, так і цяпер. На чужое гора паквапілася...» Гэта пра яе, Анюту. Ляжала яна тады ў разорцы між градамі і горка плакала, як па нябожчыцы, па сабе галасіла: «А бабачкі ж вы мае, а не хацелі б вы майго гэтага шчасцейка. А я ж увесь век мучаюся, слёзы праліваю. А ні з кім жа я не круцілася. Згубіў ён маё жыццейка змаладу і да старасці. А каб жа вы ведалі, колькі я папраклінала той дзянёк, калі сустрэла яго і палюбіла. А навошта ж ён на маю бедную галовачку нарваўся! Ссівелі абое, а шчасцейка не мелі і не маем, спачыну няма...»

Дык што ж яна магла сказаць Сцяпану, чым даць рады?! Хіба самой толькі паехаць да Андрэя, у ногі пакланіцца, сказаць, што напрасліну людзі гавораць, што ні ў чым яна перад ім і перад маці яго не правінілася, што не адбівала яна Сцяпана ад жонкі і дзяцей, што каб жа захацела, дык і адбіла б, што пайшоў бы Сцяпан за ёю, як на вяровачцы...

І не сцярпела Анюта, вырваліся ў яе тыя словы:

— Сёння зноў прыязджаў... Узяў у Альжбеты колькі мяшкоў бульбы і капусты...

Не данёс Сцяпан тады лыжкі да рота. Зірнуў на яе няўцямна, быццам толькі цяпер дайшло да яго, што і яна аб тым жа. Нічога не сказаў. Паклаў лыжку і пасунуўся з-за стала, на двор выйшаў.

Тады, мусіць, і зразумеў Сцяпан, што не хопіць у яго сілы болей зацята маўчаць, што некалі прарвецца ў ім лютая злосць. І надумаўся паехаць да сына, расказаць яму ўсё, пагаварыць па-мужчынску...

Ехаў Сцяпан і думаў над тым, што скажа сыну, думаў аб сваім жыцці, аб пражытых гадах. Прыгадваліся не ўсе яны — думкі круціліся вакол апошніх трыццаці. Успаміны пачыналіся з таго часу, калі быў маладым хлопцам, з тае вясны, а дакладней — з пачатку лета, калі паехаў разам з іншымі хлопцамі падводчыкам за кіламетраў дванаццаць ад роднай вёскі, пад самую былую граніцу з Польшчай. Будавалі тады па граніцы ўмацаванні, і з'язджаліся туды падводчыкі пясок вазіць з усіх навакольных вёсак, у большасці маладыя, нежанатыя хлопцы. Кватаравалі па хатах у прыгранічнай вёсцы Мышкавічы.

Два тыдні прабыў тады Сцяпан на пастоі ў тых Мышкавічах. Днём вазіў пясок з кар'ера, а вечарамі разам з хлопцамі хадзіў на вясковыя пагулянкі. І прыглянулася яму ў тых Мышкавічах маладзенькая Анютка — смуглявая, чарнявая, нібы і не наская. Было тады дзяўчыне гадоў якіх семнаццаць-васемнаццаць. Прымеціў яе Сцяпан на кар'еры — насыпалі пясок на падводы дзяўчаты. Убачыў, і паланіла яна хлапечае сэрца. Толькі да таго гурту дзяўчат, дзе была Анюта, стараўся падагнаць свайго Уюна. А пасля быццам незнарок з'яўляўся каля дзяўчыны, браў з яе тонкіх рук рыдлёўку і, не разгінаючыся, шураваў пясок, аж пакуль дзяўчаты не спраўлялі рогат, бо той пясок сыпаўся ўжо цераз бакавыя дошкі. І на пагулянках таксама стараўся быць бліжэй да Анюты. У танцах быў не дужа спрытны, і не так ужо і часта адважваўся запрашаць Анюту ў круг. Найбольш падладжваўся прытрымаць яе пад канец танцаў, каб не напрошваліся ў праважатыя іншыя ўхажоры — падводчыкі, маладыя афіцэрыкі-пагранічнікі ды фанабэрыстыя звыштэрміноўшчыкі.

Заўважыла і Анюта Сцяпана — невысокага, але моцна збітага, падцягнутага, з багатай шапкай жытнёвых валасоў. Толькі не падабалася маладзенькай Анюце, што залішне маўклівы, сарамяжы Сцяпан, але растлумачыла ёй старэйшая сяброўка, што маўчанне ягонае — ад кахання, што раз маўчыць, то, значыць, закахаўся ў яе хлопец. Пасля сама Анюта расказала пра гэта Сцяпану.

Прамільгнулі тыя два тыдні, і ехаў Сцяпан дадому і радаваўся, што паслухаўся бацькі і паехаў у Мышкавічы — а то ж спачатку быў за-

ўпарціўся, аднекваўся. А вось вяртаецца і аж спяваць хочацца, хоць і не ўмееў, хоць і не спяваў нават пасля чаркі гарэлкі.

Было тады Сцяпану ўжо дваццаць пяць, і наважыўся прасіць бацьку, каб паслаў сватоў у Мышкавічы. Але калі пачуў бацька пра тое, дык не ўзрадаваўся, хоць раней і падганяў сына — прыводзь, маўляў, маладзіцу ў хату, цяжка старой маці з гаспадаркай. А тут змоўк бацька, на сына нават не глянуў, быццам той і не гаварыў нічога.

Толькі пасля, круцячы тоўстую, як палліска, цыгарку, сказаў:

— Ведаю я тую Анюту мышкавіцкую. Бацьку Ігнасём завуць. Некалі разам акопы капалі... Галота беспрасветная. А табе жыццё трэба жыць, а не гулі-булі спраўляць... Нагледзеў я табе, сын, дома дзеўку. Не бяда, што тварам не дужа выйшла, затое спакойная, не круцёлка. Розум у галаве, а не вецер. І цягавітая, рабацяшчая. Не тое, што Ігнасёва жаробка... Вось да яе, сын, і сватоў пашлём.

Спрабаваў Сцяпан пярэчыць бацьку, ды дзе там: той і слухаць не хацеў. «Каб жа на гэты час, дык хіба ж пагадзіўся б? Мой жа во ў мяне не спытаў нават...» А тады вымушаны быў Сцяпан пагадзіцца з бацькам. Не пагадзіся — дзе жыць будзеш? У Анюты малых поўная хата. Ды і якая там хата — трухля адна. А тут яшчэ і маці тое ж, што і бацька, і цёткі...

І ажаніўся неўзабаве Сцяпан з Веркай Папковай. Гаварылі тады людзі не столькі аб маладой, колькі аб яе пасагу: прывяла яна ў двор да Сцяпана карову і дзвюх авечак, прывезла ў хату гару падушак, а галоўнае — старабытную, ручной работы шафу з вытачанымі ножка-

мі і анёламі наверсе, пафарбаваную чырвонай лакавай фарбай.

Не гарнулася Сцяпанава душа да маладой жонкі, усё ўспамінаў чарнавокую і чарнакосую Анюту. Але нарадзілася дачка, Сонька, пасля сын, Воўка, і неяк ацiхла тое ў душы. Дзецi не вінаватыя, трэба нейк жыць. Паспакайнеў, ацiх Сцяпан, нiбы памажнеў. Пакрысе i на жонку, Верку, пачаў глядзець ласкавейшым вокам.

Калгас iх па тым часе мала чым мог пахвалiцца. Даводзiлася Сцяпану i Верцы, каб звесцi канцы з канцамi, шчыраваць i ў полi, i дома. Але ўсё роўна не вельмi хлебна было ў хаце. I нейк даўмеўся Сцяпан падацца на лёгкi хлеб — уладкаваўся нарыхтоўшчыкам. Ахрысцiлi яго хутка людзi Анучнiкам, бо ездзiў па раёне i збiраў-скупляў у вясковых кабет анучы, старыя галёшы, валёнкi, косцi. З конiкам сваiм дападаў аж у самыя далёкiя вёскi.

Дапяў i ў Мышкавiчы, дзе некалi вазiў з кар'ера пясок i напаткаў Анюту. Ехаў туды, i яшчэ па дарозе пачало сэрца трывожыцца — успомнiлася, прыгадалася ўсё тое, што было там колькi гадоў назад. I захацелася ўбачыць Анюту, проста так зiрнуць на яе, бо ведаў, што яна таксама выйшла замуж, ведаў таксама, што чалавек яе прыстойны, ходзiць у сельсавецкiм начальстве. А ўбачыў i адчуў, што зноў узбунтавалася ў iм кроў, хлынула да галавы. I ўзрадаваўся Сцяпан чамусьцi, калi адчуў, што не мiнулася тое, не забылася, што i цяпер Анюта — даражэйшы для яго чалавек, узрадаваўся i спалохаўся.

Трэба ж было яму спынiцца якраз перад яе хатай — перад новым смалiстым дамком з трыма вокнамi на вулiцу. Хацеў каня напаiць —

студня была пры хаце. Толькі выцягнуў вядро, зняў яго з вочапа, аж тут і падыходзіць да студні Анюта. Можа, і знарок выйшла, можа, убачыла яго праз акно, бо ішла насцярожаная, уся пунсовая. Убачыў яе Сцяпан і ледзь вядро з рук не выпусціў. Урэшце перадыхнуў:

— Анютка?..

А яна таксама глядзіць на яго і слова вымавіць не можа.

— Колькі ж гэта гадоў не бачыліся? Пяць, мабыць. Ну, як ты?

— Так... А ты?

— Ды вось бачыш, езджу... Анучнік. Пэўна ж, чула? А як ты? Што ты?

— Жыву, Сцяпанка. Дачка ў мяне расце.

— А ў мяне двое — сын і дачка.— І не ўтрымаўся: — Як жа гэта мы, Анютка, га?

— Ніяк, Сцяпанка. Так трэба было, відаць.

— Я вінаваты, я ведаю, я вінаваты...

Цяпер і ўспомніць не можа Сцяпан, аб чым яны каля студні гаварылі яшчэ. Мусіць, ні аб чым, проста так пастаялі, адно на адно паглядзелі. Але перавярнула тая сустрэча Сцяпанава нутро. Па тыдню, па два дадому не прыязджаў. А людзі хутка разнеслі: прападае Анучнік у Мышкавічах, каля старшыніхі круціцца, маладое ўспомніў. Дайшло тое да жонкі і ўсчалася ў хаце сварка:

— Дзяцей хоць бы пасаромеўся, людзей! На вуліцу нельга выйсці! І зусім не прыязджай, валацуга! На парог не пушчу! Ідзі да тае сучкі, калі яна табе вочы засляпіла...

Сцяпан не агрызаўся на гэтыя жончыны кляцьбы і крыкі. Што ёй, дурной бабе, давядзеш: «І нічога ж у нас з Анютай не было. У мяне сям'я была і ў яе... Чаго ездзіў туды,

сам не ведаў; а ўсё ж ездзіў, не мог не ездзіць. Каб жа не бачыў, што і яна да мяне горнецца. А то сустрэнемся — уся свіціцца, нібы ёй ранейшых семнаццаць гадоў... Мужык яе таксама даведаўся, і ёй не соладка даводзілася, а ўсё роўна ж хоць крадком выходзіла сустрэцца...»

А праз год неўспадзеўкі загінуў Анюцін мужык. У разводдзе праваліўся з канём пад лёд. От тады і зачаплілася ў Сцяпанавай душы надзея. Сам спалохаўся гэтай надзеі, але ўсё роўна недзе ў глыбіні душы песціў яе. Колькі разоў хацелася яму кінуць-рынуць усё, сысці з дому, да Анюты. Ды астуджвала гэтыя ягоныя парыванні сама Анюта. «Не, Сцяпанка, сіротамі дзяцей рабіць — ніхто нам гэтага не даруе. Не будзем мы з гэтага шчасця мець». І аж плакаў Сцяпан, кляўся, што дзяцей не кіне, як зможа — памагаць будзе, але Анюта ні блізка. І за гэта яшчэ больш люба была яму яна, і яшчэ больш балела ў яго душа...

Перад самаю вайною нарадзіўся ў яго яшчэ адзін сын — Андрэй. Не дужа і хацеў яго Сцяпан, але так ужо атрымалася. А жонка была рада. Усё спадзявалася, што цяпер, нарэшце, адумаецца Сцяпан, што можа малое прывяжа яго да дому, выб'е з галавы тую дурноту.

І ці то таму, што людзі перасталі звягаць пра іх, ці мо Верка махнула на тое рукой, змірылася са сваім лёсам, але ў хаце нейк сапраўды пацішэла...

Вайну Сцяпан прайшоў шчасліва. Дзе толькі ні быў, у якія перакруткі ні трапляў — быў і ў акружэнні, і пад Масквой, пад канец вайны апынуўся аж у Аўстрыі,— а вярнуўся дадому жывы і здаровы, без адзінай прыкметнай драпіны, вярнуўся адзін з тых васемнаццаці

мужчын, што пайшлі разам з ім. Забыліся, аціхлі за гады ранейшыя крыўды ў душы Веркі, дзеці падраслі, нават апошняму, Андрэйку, пара ў школу ісці, а тут і Сцяпан вярнуўся — можна было жыць.

Сцяпан у калгас не пайшоў. Хоць і дужа патрэбны былі яго рукі ў роднай вёсцы — засталося такіх здараўцоў, лічы, двое-трое,— падаўся зноў у тыя ж нарыхтоўшчыкі. Прыдбалі яму трафейнага, старога і аднавокага каня, і Сцяпан зноў пачаў сваё цыганскае жыццё па дарогах раёна. Па тым часе гэта было зусім няблага: як-ніяк, конь у руках. А колькі тых коней тады было! Калі каму агарод пасадзіць, палку дроў прывезці — ішлі да Сцяпана, ішлі ж, вядома, не з пустымі рукамі. На Верчыным стале часта перападала і дармавая скварка, і сёе-тое да скваркі. Можа, і гэта супакойвала Верку, можа, і гады зрабілі сваё, а толькі калі дайшло да яе, што Сцяпан нібыта зноў знюхаўся з Анютай, не дужа блізка ўспрыняла гэту чутку да сэрца. «Ліха з ёй, з круцёлкай той. Што ж мне — на старасці гадоў у бойку кідацца? Не маладзёнак я, дзякуй богу... А валацуга мой паваланочыцца, а нідзе не дзенецца, дадому прыпаўзе...»

Так і ішлі гады. Можа б, і жыццё сваё зжылі Сцяпан з Веркай, калі б не насланнё, што звалілася на іх хату, на іх сям'ю. Гады тры назад захварэў старэйшы сын Воўка. Занядужаў хлопец, а што за хвароба да яго прыстала — розуму не дабраць. Аслабеў, на вачах чэзне. Не маглі даць рады той хваробе ў раённай бальніцы, вазіў хлопца Сцяпан і ў горад, а на папраўку ўсё роўна не ішло. Марнеў сын увачавідкі — нібы той лісток на бярозе, прыхоплены прымаразкам. І па тым, што не дужа

абнадзейвалі Сцяпана ўрачы, зразумеў ён, што з сынам бяда. Працягнуў сын сапраўды нядоўга — згас, быццам свечка. Дачуўся Сцяпан толькі пасля сынавай смерці, што хвароба ягоная белакроўем называлася, не сказаў жонцы...

А праз паўгода якога захварэла Сонька. Колькі ні галасіла Верка, колькі ні папавазіў Сцяпан дачку па бальніцах — не памагло: працііўкала колькі месяцаў Сонька і згасла. Побач з магілай сына вырас яшчэ адзін жоўты пагорачак...

Здаў за той год Сцяпан, азыз, ссівеў: хоць і не ладзіў з жонкай, а дзяцей любіў, шкадаваў. А Верка дык і зусім змарнела, учарнела ўся. Сноўдалася па хаце, як здань, у чым душа трымалася — немаведама, месца сабе не знаходзіла. Сцяпан хоць на тыдзень-другі з'язджаў з дому, на людзях бываў, а яна і на вуліцу не выходзіла. Андрэй к таму часу ў горадзе ўладкаваўся, меў сына і жонку. Нядоўга жанчына памэнчылася: казалі людзі, што звяла яе ў магілу скруха, ссушыла яе, выпіла з яе кроў, як п'яўка. Толькі Сцяпан ведаў, што і ў Веркі было тое ж страшнае, невылечнае — белакроўе...

Кінуў тады Сцяпан сваю цыганскую работу, тунькаўся ля гаспадаркі. Клікаў яго да сябе сын, Андрэй, але Сцяпан адмовіўся, пашкадаваў прадаваць хату — новая, нядаўна збудаваў, сілы і сродкі ўклаў, з крэдытам нават не паспеў разлічыцца. Нават гаспадаркі — карову, свінчо — не рашаў, усё нечага чакаў, на нешта спадзяваўся, быццам не верыў, што застаўся ў хаце адзін. Добра яшчэ, што хоць Альжбета часам падыдзе — карову падоіць, свінні прыгатуе. З сына малая помач: прыскочыць у суботу, а ў нядзелю — назад, на працу спяшаецца. І так

добра, што шафёр — хоць зрэдку мог да бацькі падскочыць. Маўчалі яны болей, сын і бацька. Не мог Андрэй даравадь яму, што крыўдзіў маці. Праўда, у горы тая крыўда, можа, і забылася крыху, але ж і блізкасці паміж імі не магло ўзнікнуць за колькі дзён ці тыдняў. Сцяпана дык быццам адштурхоўвала ад сына боязь: каб жа і да яго, апошняга, не прыстала тое насланнё, што звяло сям'ю ў магілу...

Пасля пахавання маці пагаварылі былі яны крыху. Пытаў сын, як бацька жыць збіраецца, угаворваў махнуць рукой на хату і гаспадарку, ехаць да яго, у горад. Але бацька кінуў тады:

— Як-небудзь, сынок, будзе. Паглядзім, пабачым, як кажуць...

А цётка Альжбета супакоіла Андрэя пасвойму:

— Чаго ты хвалюешся? Сучку тую прывязе, вось пабачыш...— Не любіла яна Сцяпана, не магла даравадь, што крыўдзіў сястру, сказала тое і загаласіла: — А сястрычка ж мая, а табе ж пры жыцці спакою не было, дык жа і цяпер не дасць спачыць лёгенька...

Мінуў месяц. Справіў Сцяпан па жонцы сарачыны. А пасля іх, людзі кажуць, можна і другую ў хату прыводзіць. І сталася ж якраз так, як прыгаворвала Альжбета: прывёз Сцяпан Анюту. Тая таксама жыла адна, дачка, адзіная, замуж выйшла. Хаты Анюта не прадавала: «Можа дачка калі на лета прыедзе, будзе дзе спыніцца. У нас жа адпачыць ёсць дзе — лес і рэчка пад бокам». Прадала толькі сёе-тое з рэчаў, мэблю, свінчо ды курэй. Букетку, карову-першацёлку, прывяла з сабой: Сцяпанаву, старую, вырашылі збыць.

Прывёз Сцяпан новую гаспадыню надвячор-

кам. Праз хвіліну якую ўся вёска толькі пра тое і гаварыла: «Гэта ж трэба, маладосць успомніў...» А Альжбета захлыналася, крычала на ўсю вуліцу:

— Жонку ў яму, а сам на другую гляну... Хіба ж гэта чалавек, хіба ж гэта сем'янін? Людцы добрыя, колькі мая сястра папакутавала за тым злыднем, без пары ў магілу сышла... Хоць бы сына пасароме́ўся, людзей пастыдзіўся! Дурны будзе Андрэй, калі да такога бацькі паедзе!..

Андрэй і не прыязджаў. Мінуў месяц, другі, трэці, а ён не прыязджаў. Нейк быў прыскочыў у вёску, але спыніўся каля цётчынай хаты, ускінуў на машыну колькі мяшкоў бульбы і паехаў назад. Пасля быў яшчэ некалькі разоў такім жа наскокам, але да бацькі не заходзіў. І агарнула Сцяпанаву душу крыўда і роспач: «Адцураўся сын, выракся... Гэта Альжбета так яго навучыла, змяя падкалодная... Гэта ж трэба — прыедзе, а да бацькі і воч не пакажа...»

Вось і выбраўся Сцяпан у горад, пагаварыць з сынам. «Раскажу яму ўсё. Не маленькі, павінен зразумець...» Ехаў і прыгадваў сваё жыццё, думаў над тым, што скажа сыну...

* * *

На яго званок дзверы адчыніў сын. Зірнуў Сцяпан на яго і быццам падалося яму, што разгублены, збянтэжаны Андрэй. А можа, сапраўды, толькі падалося так Сцяпану, бо ў прыхожай стаяў прыцемак. Пакуль распранаўся, выйшла з пакоя нявестка з сынам, са Сцяпанавым унукам, таксама Андрэем. Адчуваў Сцяпан

нейкую нялоўкасць, і таму асабліва ўзрадаваўся ўнуку, падаўся да яго:

— Ого, які ты вырас! Не пазнаў бы дзед, каб у двары сустрэў. Ну, ідзі сюды, рыштант, хваліся, як жывеш. Чытаць ужо ўмееш? Ага, літары ведаеш. Ого, дык ты ўжо зусім вялікі! Ну, а дзеда помніш? Помніш, як ты ў вёску прыязджаў ды ўсё хацеў у той лужыне, што ля крыніцы, пакупацца, а дзед табе дубцом гразіў, помніш?

Пакуль гаварыў Сцяпан так з унукам, спусціўся Андрэй у магазін, паўлітэрку прынёс. Селі абедаць. Маўчалі сын з бацькам, не рашаліся пачынаць гаворкі. Моўчкі глынулі па чарцы, моўчкі пачалі жаваць.

— Ну, што там у вёсцы новага, тата?

— А што там будзе новага? Гэта ж у вас, у горадзе, усе навіны. І газеты ад вас прыходзяць, і радыё прыбягае. А ў нас што? Жывём... Толькі адкасіліся — жніво прыспела. Бабы на моркаўцы замучыліся. Аж восем гектараў морквы пасеялі. Ніколі не сеялі, а тут аж столькі. Машына машынай, але і рукі бабскія пахадзілі ўдосталь. Вырасла, халера. Як турнэпс...

— А што там казалі пра Воўку Валодзевага? Быццам жаніўся, хату стаўляе?

— Ну, то ж узяў з пасёлка Русенькую, у якой маці летась памерла. Перавёз яе хату, подруб паклаў ужо. Ставіць каля Раманоўскіх. Яно і някепска. Выгода — выган побач. Ці табе парасё выскачыць, ці куры... І лес... Зімой, праўда, не так прыступна — завейна, на канцы вёскі, ведама... А летам — ого!

Так гаварылі яны, гаварылі больш удваіх. Нявестка не дужа падтрымлівала іх гаворку. Пасля яна і зусім пакінула іх — пайшла не то

на працу, не то ў магазін. Застаўся Сцяпан адзін на адзін з сынам і рашыўся пачаць пра тое, за чым прыехаў. Шклянка гарэлкі памагла рашыцца, язык развязала. Зірнуў ён на сына:

— Дык чаму ж так, сынок? Няўжо бацькава хата горшая за цётчыну?

— Пры чым тут цётчына?

— Дык чаму ж?

— Ты ж ведаеш, тата. І не будзем пра гэта...

— Што ж я, сынок, ведаю? Чым я табе не дагадзіў, што на ўсё сяло мяне абняславіў? Бацькі роднага выракся!

— Ніхто нікога не выракаўся, тата. А не магу я, пакуль...

— Я ведаю, гэта цётка табе ў вушы набыліла! Дык ці ж ты сам розуму не маеш? Ці ж ты маленькі?

— Нічога мне цётка не набыліла, тата. Сам бачыў і бачу, сам разумею. І ты разумееш... Хіба табе самому не сорамна? Мамінай смерці чакаў?

— Што ты кажаш, сын, апамятайся! Дурныя людзі плявузгаюць, дык і ты павcovерыў?

— Што ты ўсё на людзей, на цётку? Каб не праўда, дык і людзі б не гаварылі... Ды ліха з імі, з людзьмі. Што мне да іх? А не магу я ў хату заходзіць, калі яна там... Не магу! Мама ўсё жыццё з-за яе мучылася, а цяпер... Што, я павінен мамай яе называць?! — задрыжаў сынаў голас, вось-вось сарвецца, але не сарваўся: — Даруй, тата, і не крыўдуй, не магу...

Больш яны адзін аднаму і не сказалі нічога. Бачыў Сцяпан, што не пераканае сына, што не пойдзе ён насуперак сабе, злуйся тут не злуйся, а не дасі рады, не ўгаворыш.

Пераначаваў ён у сына, раніцою пахадзіў крыху па крамах, сёе-тое купіў — ды і на станцыю...

* * *

Ні аб чым не пытала Анюта. Ведала, калі б што — сам бы сказаў. А раз прыехаў, маўчыць, дык аб чым тут пытацца? Убачыла толькі, што яшчэ больш пазмрачнеў Сцяпан. І ўвечары, кладучыся спаць, усхліпнула:

— Паеду я, Сцяпанка, адсюль. Не магу больш...

Упершыню аж вызверыўся на яе Сцяпан:

— Змоўчы! І ты яшчэ...

Моцна стукнуў дзвярыма.

Вярнуўся маўклівы, прыціхлы, быццам спакойны. Распрануўся і моўчкі лёг.

Раніцою, ледзь свет, пайшоў на балота — гарох касіць. Такі вымахаў, што касілка не брала, зубы заядала. Касіць такога мядзведзя і ўдзень можна, па нізе ўсё роўна расяны. Захапіў Сцяпан з сабой полудзень, каб на дарогу лішне не перабівацца, і пайшоў.

А калі вярнуўся перад вечарам дадому, не застаў Анюты. Зайшоў у хату, быццам нічога не прыкмеціў, а адчуў — няма Анюты. Кінуўся да брыгадзіра:

— Ляксей, Анюта была ў цябе?

— Была. Каня прасіла.

— Даў?

— Юлік павёз.

Прыбег Сцяпан у хату і тут толькі заўважыў — бялее на стале паперка. Прачытаў: «Не злуйся, Сцяпанка. Паехала я дахаты. Не мелі мы шчасця змоладу, не будзем мець і цяпер.

Не суджана, відаць. Не злуйся, Сцяпанка. Анюта».

Ашчаперыў Сцяпан галаву, апусціўся на лаву...

Пасля пачуў, быццам зарыкалі на вуліцы каровы. Схамянуўся: гэта ж з поля гоняць, трэба Букетку загнаць. Выйшаў на ганак, але Букеткі ў двары не было. Памкнуўся быў за весніцы, на вуліцу выглянуць, ды апомніўся: не прыйдзе сёння Букетка з поля, забрала яе з сабой Анюта. Прывяла і павяла...

Сцяпан апусціўся на ганак. Сядзеў і глядзеў, як над Краснай горкай заходзіла сонца. Было яно вялізнае і зыркае. Рыжавогненны шар паляжаў хвілінку на вяршалінках хмызоў, а пасля быццам сарваўся і ўвачавідкі пачаў апускацца, распырскваючы па небе яркае полымя. Вось ужо менш палавіны таго шара над Краснай горкай. Пасля застаўся маленькі акрайчык. Нарэшце і ён прапаў. Толькі неба яшчэ доўга палала — шырока і ярка.

Сцяпан сядзеў аж да той пары, пакуль і ад таго полымя засталася над Краснай горкай толькі вузенечкая светлая палоска. Тады ён падняўся, уздыхнуў і падаўся ў хату.





# СЛАБОДСКІ ПАРЛАМЕНТ

**З вясковых занатовак**

Сяджу на лаўцы ля матчынай хаты. Вечарэе. Сонца ўжо недзе за Каралёвай пуняй. Праз усю вуліцу працягнуліся доўгія цені. На другім баку толькі сям-там святлеюць лапінкі паркана ды ў сонцы яшчэ Зосін клён і Папковы ліпы-спарышы. Гарачыня апала — над вухам звініць першы камар...

Такою парою — на заходзе сонца — ёсць хвіліны адхлання і вясковай жанчыне...

Прарыпяць варотцы, і на вуліцу выйдзе суседка — цётка Ганна. Паглядзіць у адзін канец вёскі, з-пад рукі — пад сонца — у другі, патупае ля гародчыка з кветкамі, пасля цяжкавата апусціцца на лаўку — выслізганае, бы адпаліраванае, бярвенца, што засталося тут, на каменнях, яшчэ ад таго, як мяняўся ў хаце подруб, сядзе, пакладзе на калені рукі і задрэмле.

Высунецца з расчыненай брамкі цётка Зося. Гэтаксама, як і Ганна, паглядзіць з-пад рукі сюды-туды і прысядзе на яшчэ цёплы камень, аброслы шчавуком і крапівою, і таксама задрэмле.

— Чаго ты там расселася? Ідзі сюды! — гукае раптам цётка Ганна.

— Дзе там расселася! Расседзішся тут! Завіхнулася крыху на агародзе. Моркву прарвала, агуркі прапалола... Ды выйшла во на вуліцу каrову спаткаць.— Цётка Зося падымаецца і шлэпае да Ганны. Ідзе і гаворыць: — Ліха яго ведае, Ганна! У цябе цыбуля не жаўцее? Гэта ж сягоння толькі і ўбачыла. Пайшла перад абедам вышчыкнуць каліва ў шчаўе, дык гляджу — нешта пер'е нейкае млявае, як быццам хвароба на яго напала... Здрастуй,— кажа яна мне і, не чакаючы, покуль я адкажу, зноў да Ганны: — Дык я вазьмі каліва і разлупі. Ажно ўсярэдзіне, дай ты веры, чарвячкі. Дробненькія-дробненькія такія, беленькія, і ўсё гнёздамі...

— Я сваёй не глядзела... Але скажы ты — у цыбулі! Ніколі ж такого не было!

— Дык я ж і кажу! Ніколі такога не было! Можа, што дажджу няма?

— Але, можа, і ад сухаты. Я да сваёй не прыглядалася. Так то пер'е, здаецца, добрае. І гонкае, і сакаўное. Валька дык тая без солі і без хлеба... Вырве, скруціць і храбошча...

— У мяне, Ганна, сяголета, маніцца, агуркоў шмат будзе. Вось-вось загарацъ.

— І ў мяне добрыя. Хоць суха, але цёпла, дык і растуць. А каб яшчэ парнасць...

Да калодзежа, што цераз вуліцу, ідзе з вядром Манька Кастусёва. Але вады не бярэ. Вешае вядро на паркан і, кіруючыся да жанчын, гамоніць:

— Чулі, бабы, ці не? Шпіён аб'явіўся,— і рагоча. Садзіцца не на бярвенца, а проста на зямлю, абцягваючы на каленях спадніцу.—

Хлопец на аселіцы, па кустох, латку асакі выдзеўб, дык пайшла я гэта яе павярнуць. Ажно ідзе Люда Холадава. Падыходзіць да мяне і кажа: «Каб ты ведала, Манька, як напалохалася! Пабегла ў абед на Красную горку палку дроў высекчы. Шастаю гэта я ў кустох ля дарогі, аж бачу — чалавек ідзе. Апрануты не па-нашаму, і чамадан нейкі модны — з рамянямі ды замкамі. Згледзеў мяне і да мяне. Усё дарогу распытваў. На Стайкі, Бухнавічы, Пуцілава. Дык я і думаю: шпіён. Стаю і дрыжу. Боязна: адна ж, а кругом кусты...»

— Ага, такі ён і дурны будзе, той шпіён! Гэта ж, бабы, мусіць, той, што Верцы Міхалкавай і Міхаліне коўрыкі прадаваў. Верка казала — такія, як і ў магазіне былі, з махрамі, толькі расцветка другая. Па шаснаццаць рублёў.

— А ён жа, бач, па дваццаць пяць прасіў!

— Дурняў знайшоў! Думае, калі ўжо баба, дык і суне хутчэй!

— Але ж нехта, мусіць, і купляе, калі во носіць і прадае. Пэўна ж накраў недзе. Помніце, да Надзі Давыдавай баба прыязджала, світары і кохтачкі прывозіла,— казалі, з Баранавіч. Бажылася, што па цане прадае. А Стэпчын хлопец — матка яму світар купіла ў яе — прыехаў з Мінска, паглядзеў, дык казаў, што той світар васемнаццаць рублёў каштуе, а Стэпка ўсе трыццаць вылажыла.

— Дык стой, Ганна! Надзя ж казала, чула ці не, што бабу тую пасадзілі. Мужык яе на фабрыцы рабіў і краў там, а яна хадзіла па вёсках і прадавала.

— Пэўна ж, у горад не паткнецца!

— Ты ж і сама кохту купіла!

— Купіла! Бо дурная была! Кохта ў магазіне чатырнаццаць рублёў, а я дваццаць чатыры аддала.

— А я, бабы, скажу так. Каб у магазіне былі, дык трасцу я б купіла ў яе ці ў каго там!

— У магазіне! Было б, можа, і ў магазіне, каб такія во не кралі...

На гамонку выйдзе з двара Гілена Папкова, тут жа акажацца Кацярына Мікалаева, прысунецца, цягнучы ногі ў сынавых чаравіках-атопках, бабка Марыля, прысядзе на корпушкі Гэлька Каралёва,— і «бабскі парламент», як кажа мой швагер, пачне сваё пасяджэнне. Пра што толькі ні пагамоняць тут жанчыны, пакуль прыйдзе з поля статак!..

## НА РАЗВОД

Цётка Зося засмучана — не паручыла сёлета з куранятамі.

— Гэта ж трэба, далібог! Яечка да яечка выбірала, кожнае на сонца праглядзела. І певень жа свой. І на табе — пяць баўтуноў!

— Можа, Зося, не баўтуны, а заморкі?

— Га, заморкі! Быццам я ўжо не ведаю, што заморак, што баўтун! А курыца? Так ужо добра сядзела. Есці сама не зляціць. Дык ужо ліха з імі, з баўтунамі! Астатнія выйшлі. Ужо і рухавыя былі, тварог клявалі, дык — як насланнё якое. Адно ўтапілася, другое хлопец растаптаў, трэцяе варона схапіла... Сёння чую — зноў квактуха крычыць. Кінулася на гумно і — зноў вароны. Траіх не далічылася. Хоць ты плач, далібог.

— Дык гэта ж як не паручыць адразу, дык хоць ты што рабі! Летась і ў мяне: з пятнацца-

ці толькі шасцёра засталося. Кот, каб ён здох, панадзіўся. Пакуль убачыла, дык дзевяць пылянят спёр. Пётра раззлаваўся, знёс ката з дому. Я дык і шкадавала, але ж... Раз абсмакаваўся, дык ужо радачкі не дасі. Сваіх бы перадушыў, а пасля б і людзям пачаў шкодзіць.

— Ліха ўжо на яго, такога ката! Хто яго будзе трымаць! Як ты толькі раней не ўгледзела?

— Чорт яго ўгледзіць! Такі спакойны быў, ласкавы. І думкі тае не было. Але ж хітры, падла! Увечары яшчэ сподачак малака выхлебча, і хоць бы што сабе!

— А што! Наесца, дык піць хочацца.

— Каб яго распёрла, падлу такую!.. Але скажыце, бабы: нешта ж і жывёліна разумее! Ну во хоць бы гэты кот. Ну, праўда ж! Застала яго на агародзе — якраз над пылянём сядзеў, аблізваўся. Дык як згледзеў мяне, так даў дзёру ў бульбоўнік!

— Га, канечне! Ведае, што подлічае! Я сваю кошку калі над жбанком ці на стале заспею — кулём уцякае.

— Ай, я такога ката і не трымала б. Каб ён у мяне па сталах лазіў?!

— От ужо і не трымала б! Кот ёсць кот. Гэта не сабака. Сабака дык жывёліна разумная. А калі яшчэ змалку вучыць яго! А кот і жыве з таго, што памаўзлівы. Каб не мышы, дык надта б ён і патрэбен быў... Ты, Ганна, кажаш, што кот тваіх пылянят перавёў. Ну, добра, сама не ўгледзела, дык квактуха нашто?

— Марылька, а што квактуха зробіць? Яна і так добра вадзіла. Гэта ж каб кот чужы, а то ж свой. Разам па двары ходзяць. Дык ён жа, падла, хітра краў. Каб не пабачыла сама, дык,

дальбог жа, не паверыла б. Сядзіць гэтак сабе ціхенька, вочы заплюшча — быццам спіць. І курну сваю вядзе. А пылянё адаб'ецца, дык ён лапай яго — і ў бульбоўнік ці ў буракі на агародзе. Пылянё тое толькі пісне. Квактуха ўспудзіцца, паквохча-паквохча, ды і супакоіцца. А што пыляняці аднаго няма, дык і не ведае.

— Ведама ж, не палічыць!.. Але я, бабы, вам скажу, што кожная матка сваіх дзяцей бароніць. Вось бы хоць і курыца. Няхай сабе кажуць: дурная, як курыца. І пылянят жа яна не раджае, з яечак выводзіць, а ўсё роўна... Пыляняты і вырастуць ужо, і не слухаюцца маткі, і не ідуць за ёй, а яна ўсё роўна за імі бегае, сама не з'есць, а ўсё каля іх тэпае, грабецца.

— Ай, як каторая! Каторая як выведзе, дык паходзіць тыдні два якія і кідае. Зноў несціся пачынае.

— Ну а што ты хочаш? Вунь і маткі не ўсе аднолькавыя. Глядзіш на каторае дзіцянё — ссінела ўсё, як пупок, у адной сарочцы на холадзе бегае, у цябе ў чужога сэрца заходзіцца, а матка сядзіць на вуліцы ў ватоўцы і ёй ані да галавы. Дык што ты хочаш ад курыцы?

— Не, не кажы, Зося! Гэта ўжо натура такая. А, не дай бог, здарыцца што, дык сэрца і забаліць. Гэта пакуль здаровае дзіцянё тое, дык хай і пабегае, хай пазалее, а захварэе, дык і тая матка адумаецца... Гэта, кажу, ужо натура такая. Пакуль па галаве не стукне...

— Ат! Знайшлі гамонку! Курыцу нейкую і чалавека роўняць!

— Ніхто, Манечка, і не раўняе! Гэта так, к слову прыйшлося. А маткі, што там гаварыць, розныя бываюць. І сучка матка, і курыца — матка, і верабей во гэты, можа, таксама мат-

ка,— бабка Марыля паказвае на вераб'я, што скача па бруку непадалёк ад жанчын.— Я, пэўна, ніколі не забудуся на сваю квактуху. У сорак чацвёртым, неяк ужо перад прыходам нашых, вывеліся ў мяне пыляняты. Дзе брала яйкі, дальбог ужо не помню. Мусіць, аднекуль Васіль прынёс, бо ў нас, у Слабадзе, пэўна, ужо ні ў кога не было. Помню як цяпер — вывелася дванаццаць. Ужо ў пер'е браліся. Такія прыгожанькія, чубаценькія ўсе, і касманожкі. Нейкае каліва проса цягнулася ў мяне, дык варыла ім... І помніцца — якраз перад прыходам нашых апошняя блакада была. Відаць, тыя немцы з блакады вярталіся, бо з-пад Мураванкі ехалі, з лесу. Ну, усе нашы лахі пад пахі ды наўцёкі. Я з хлопцам таксама ў Лучкі паджгала. Васіль жа ў партызанах быў. А я з хлопцам як стаю пабегла. Дзе там будзеш думаць пра курыцу з пылянятамі!

Пасядзелі мы тады ў Лучках ды ў Паповых раўках да ночы. Немцы нанач у вёсцы не асталіся, паехалі некуды. Вярнулася я ў хату, а ўся хата, не пры вас кажучы, запаскуджана. На падлозе салома пакамечаная, усюды бінты карэлыя, на стале і на лаве — косці абгламзаныя. Печ незасланёная, але цёплая, палілі, відаць, варылі нешта.

Пераначавалі мы на печы, а раніцою знайшла я ў свіронку галаву кароўю і вантробы выпушчаныя, не патрашоныя. Аднекуль, відаць, карову прывялі, бо ў нас ці заставалася тады і карова ў каго? Хіба толькі ў Антона Крыніцкага, бо ўвесь час у лесе сядзеў з каровай, не вылазіў...

— Але ж во, бабы, і не папалілі тады нікога!

— Не папалілі! Толькі ў нас і не папалілі!

А туды, пад Чырвоны Бор ды пад Кузевічы,— усё датла!

— Дык слухайце. Занялася я тады тою галавою — вантробы былі завэцганыя ўсе, давялося закапаць, каб сабакі не цягалі. А на пылянят тых і забылася зусім. З'елі, думаю. Дзе ж вы бачылі, каб курыцу яны выпусцілі! З аўтаматамі ганяліся! Але ж пасля ў галаву цюкнула: каб жа з'елі, дык недзе пер'е засталося б. Абышла кругом усё: агарод, гумно, загуменне агледзела — няма нідзе пер'я. Ну, я і зноў супакоілася ўжо. Ажно на трэці ці чацвёрты дзень пайшла на аселіцу анучы спаласнуць, аж чую — у ячмені нешта шастае. Я туды — квактуха мая. І ўсе дванаццаць пылянят пры ёй. Дай ты веры! Няйначай бяду і курыца чула і звяла іх, малых, так далёка ад дому. Я ўжо так рада была! Хоць рукі ёсць за што зачапіць.

— Дык гэта ж, Марыля, з тых тваіх пылянят, мусіць, і куры па вёсцы пайшлі. Бо, помню ж, і ў Івана, і ў Кацярыны, і ў Зосі ўсе былі чубаткі і касманожкі.

— Пэўне ж! Я ж з тых дванаццаці так ніводнага і не засекла. Усе людзі паразбіралі. Каб Васіль дома быў, то, можа, і засек бы — булён які затаўчы. Але ж як пайшоў тады з нашымі, так і не вярнуўся... А я дык і не рашалася тапор у рукі браць. Ды і шкада было. Раз ужо вайну перажылі, хай растуць...

## СЯБРОЎКІ-СУПЕРНІЦЫ

— Чуеш-далібог, учора ў лазні нагледзелася,— і смех, і гора,— пачынае весці рэй цётка Гілена.— Пакуль управілася па гаспадарцы, дык і ацямнела. Узяла батарэйку і загуменнем

пабегла. Прыбягаю, ажно і баб яшчэ ёсць. Стэпка мылася, Васіліха, дзяўчына Міхалініна, блізняты Андрэевы. Ну і я прыбегла. Чуеш-далібог, а яшчэ — Ніна Барэйкава і Шурка. Духу ўжо малавата было. Лілі-лілі, сабралася крыху, дык мы ўжо на палок пазалазілі, хвошчамся. І Ніна залезла. А Шурка не пайшла. Колькі ні гукалі — не пайшла, чуеш-далібог!

— От дзіва! Яны ж нідзе між сабой не мірацца. Колькі дзе ні былі — ці на сене, ці на бураках — адна да адной не абзавуцца.

— Ат, дурныя бабы! Хлопца не падзялілі! Тады яшчэ маладыя былі, дык, можа, і было тое ў галаве. А цяпер? І Ніне ўжо тое не патрэбна, і Шурцы. Порхаўкі старыя, а як дзевачкі!

— Чуеш-далібог, Ганна, ты няпраўду кажаш! А каб жа твой Пётра да другой пайшоў? Вокны так бы і пабегла біць!

— А божачка ж мой, каму ён патрэбен, пень гнілы? Прывалачэцца дадому, дык заваліцца і спіць.

— Спіць — не спіць, а і цябе яшчэ не крыўдзіць. Во — малое ці даўно за спадніцу трымалася?

Жанчыны рагочуць. Ганна адмахваецца:

— Ну хай, хай! Але ж вокны, як Гілена кажа, біць не пайшла б.

— А ты не заракайся! Добра, што твой Пётра такі ўдаўся, што не хадзіў і не пойдзе да другой. А то вунь жа ёсць і такія, што...

— Бо бабы такія ёсць! У горадзе, кажуць...

— Кіньце вы! Без дай прычыны счэпяцца і сварацца! Дзіва тады, што Ніна з Шуркай ніяк не мірацца! У іх жа хоць прычына для сваркі была!

— Манечка, чуеш-далібог, ніякай прычыны не было! Мне ж Шурка як на духу казала, сама. Нічога ў яе з Юзікам не было. І Ніна, каб разумнейшая была, дык, чуеш-далібог, толькі б Шурцы падзякавала, што дзяцей, і мужыка, і гаспадарку дагледзела. Хіба мала тады Шурцы дасталося? Чуеш-далібог, і чалавек чужы ў хаце, і сваіх дзяцей двое, і Ніны двое, і гаспадаркі дзве, і ў калгас бегай,— паспрабуй, разарвіся. І абмыць, і абшыць... Гэта ж не цяперака. А то ж, чуеш-далібог, і вошы, і кароста... Помню, зайду да Шуркі, дык яна ў печы выпаліць, попел выгарне, саломы насцеле і дзяцей туды, каб коросту тую выпрудзіць.

— А чаго ж, Шурка — баба акуратная. І Юзіка, як свайго, глядзела, і пра Ніну не забывалася. Юзік жа часта перадачы вазіў. А чые? Усё ж Шурка рабіла. І сухара насушыць, і бульбы. Юзіку яшчэ і капейчыну сваю на дарогу дасць.

— Дык жа ўсё жыццё ў падружках хадзілі! І замуж у адзін год пайшлі... А цяперака во глядзі: ужо колькі гадоў не гаворапь.

— Дык ужо, дзеўкі, гадоў дваццаць будзе! Ото ж час ляціць! Не агледзішся, а і паміраць пара...

Я сёе-тое чуў, чаму пасварыліся былыя сяброўкі цётка Ніна і цётка Шурка, але што там дапраўды між імі адбылося — не ведаю. Таму пытаюся ў жанчын:

— А з-за чаго гэта яны?

— А ты хіба не ведаеш?

— А адкуль яму ведаць? Колькі яму было тады? Мусіць, гадоў дзесяць? Дык адкуль яму ведаць?

— А божачка мой, усё сяло ведае! Дзесяць

гадоў і каб не ведаў? Ды тады, Ганна, дзеці і сталелі хутчэй. Мой Васіль у дзесяць гадоў і касіў, і араў, і ў дровы ездзіў...

— Думаеш, толькі твой Васіль! Вунь Алёшка Маньчын, супроць твайго Васіля — верабей, а таксама за плугам хадзіў. Глядзіш, бывала, і сэрца ад жалю заходзіцца. Дзіцянё горкае. Ручаняты тыя як бізуны, сарочка і штонікі як на калочку вісяць. Дагоніць баразну да канца, а плуга закінуць не можа. Матка з баразны ў баразну пераносіць. А Мішка Аленін, а Воўка Сымонішын? Ды каб жа яшчэ пад'еўшы былі. А то шчаўем ці крапівою — добра яшчэ, калі заціркай забеленай,— жывот нальюць, перадыхнуць цяжка, а ўсё роўна есці хочацца... Дык слухай, хлопец,— гэта цётка Ганна кажа да мяне,— неяк адразу пасля вайны... У сорак шостым годзе, бабы?

— Не, Ганначка, мусіць, у сорак сёмым, бо грошы ўжо новыя былі.

— Ага, правільна, рэформа была ўжо... Малацілі мы жыта. Дзе ж гэта мы малацілі? Ці ля сырабойні, ці тут, ля крыніцы, пад паветкай?

— От, яна яшчэ і пытаецца! Сырабойню ж у сорак пятым разабралі, паветку тую паставілі з яе. Ды не помніш хіба, дзе жыта тое знайшлі? У пуньцы Яўхімавай. Помніш, над самай крыніцай пунька стаяла?

— Во, бачыш, памяць стала... Ну, дык у абед Ніна з Веркай Міхалкавай паўмяшка жыта ў тую пуньку ўкінулі. Не з дастатку пакваліліся. Думалі, хоць зацірка дзецям будзе. Ды той жа пуд жыта і ў жорны нават не трапіў. Падгледзеў нехта, як Ніна з Веркай таго паўмяшка жыта цягнулі і — у кантору. Прыехала міліцыя. Знайшлі тое жыта — бабы і пе-

рахаваць не паспелі,— акт склалі. А скора і суд быў. Верцы — у яе малое было, Воўка, здаецца, яшчэ цыцку ссаў,— прысудзілі ў калгасе адрабляць, а Ніне тры гады далі. Ну, дык Ніна і папрасіла Шурку дзяцей і Юзіка дагледзець. Шурка спачатку штодня бегала да Юзіка: і зварыць жа нешта трэба, і карову падаіць, пэўна ж і куры былі. Ды ці мала тае работы ў гаспадарцы! На адной не пасядзіш ні хвілінкі, а тут дзве. Бегала так Шурка, бегала, а пасля і забрала Юзіка Ніністага з дзецьмі да сябе. Ніна сама яе аб гэтым папрасіла ў пісьме. Але ж знайшоўся нехта. Узяў ды напісаў Ніне пісьмо, што жыве Шурка з яе Юзікам як з мужыком, у адной пасцелі спіць... Вось і пасварыліся падружкі.

— Чуеш-далібог, Ганна, дык я ж кажу: сама Шурка казала, што нічога ў яе з Юзікам не было. Клялася, што не было.

— А я што? Можа, і не было. Я ж у нагах у іх не стаяла.— Ну,— цётка Ганна зноў гукае да мяне,— Ніна толькі год там прабыла, адпусцілі. Вярнулася дахаты, забрала Юзіка з дзецьмі. Спачатку з Юзікам быццам і не мірылася, сварыліся часам, але пасля зжыліся. І малое яшчэ прыдбалі — трэцяе. А з Шуркай так дружба і парвалася. І Юзік з Шуркай таксама не гаворыць.

— Ведама, мір у сваёй хаце даражэй.

— А не кажы! Калі б нічога не было, дык чаго б яму не здаровацца? Жонку шанаваць — шануй, але ж і Шурка... Чым яна вінаватая? Што дзяцей памагла гадаваць? Каб іх вошы і кароста не заелі?

— Правільна, Кацярына, кажаш! Бабы пасварыліся, а чаго мужыку ўмешвацца?

— Але ж скажыце, бабы, чаго толькі ў жыцці не бывае!

— Канечне, бывае. Усякае бывае. Але я, бабы, скажу так: каб не жыццё тое, каб не гора, дык, можа б, між Шуркай і Нінай нічога не было. Можа б, і век зжылі спакойна.

— Пэўне, зжылі б!..

## ГОЛАД

На вуліцу выбягаюць дзве бялявыя дзяўчынкі — унучкі цёткі Ганны. На лета маці адпраўляе іх з Мінска да бабкі — бедныя не будуць. Дзяўчынкі цярэбяць цётку Ганну за спадніцу:

— Бабушка, кушаць хочацца!

— А трасцу б на вас! Як за сталом, дык у вас не ўвапхнеш, а тут — кушаць хочацца!

— Ну чаго ты на іх крычыш? Пэўна ж, за сталом не хочацца. Гэта ж не дарослы, што сеў і пад'еў. А малое пабегае-пабегае і есці хоча.

— І малыя не ўсе роўныя! Нашаму вунь чаго ні дасі, з'есць і давольна. А гэтыя гарадскія — пешчаныя, на марожаных ды піражных гадаваліся...

— Ат, памаўчы! Вельмі ўжо твая Ніна ў Мінску паняй стала, што толькі марожанымі корміць іх!

— А не бедныя, дзякаваць богу! — кажа цётка Ганна і да ўнучак: — Бяжыце ў хату, папрасіце дзеда, хай батона адрэжа і варэннем памажа. А кароўкі прыйдуць з поля, малачка пап'яце. Добра?

— Бабушка, а варэнне малінавае? Харашо?

— Добра, добра, малінавае. У століку ў слоічку.

Дзяўчынкі бягуць у хату.

— Бачыш ты яе, малінавага папрасіла,— кажа цётка Зося.— Не была б гарадская. Разбіраецца, нябось.

— А цяпер, Зося, усё роўна, гарадское ці наша. Абое рабое. Да мяне ўнучак прыбяжыць, дык не папросіць хлеба, а —бабка, дай цукерку! Або пячэніну. Я ўжо для яго прыхоўваю ў шуфлядцы.

— Ды дзякаваць, не галодныя. Дзеці нашы бульбіне гнілой былі рады, а ўнукі і на хлеб не хочуць глядзець. Толькі б які ласунак злізаць.

— А і праўда ж, бабачкі! Ходзіш-ходзіш, бывала, па балоце, як бусел, сморгаеш-сморгаеш вобаратнікавыя качалачкі, насушыш, абатрэш, змелеш у жорнах, пасля праснак лепіш-лепіш, а ён не лепіцца. Каўтаеш са шчаўем, а ён не каўтаецца...

— Я дык і лісце вобаратнікавае збірала. Пасля ў ступе стаўчэш, бульбіну, калі ёсць, дабавіш, а ўсё ж шчаўе не ў нішчымніцу. Наедак малы, але ж хоць у жываце нешта ёсць.

— А шайморы? За трактарам людзей, як груганняя.

— Не, шайморы якраз і нішто. Крухмал. Астыне, зацвярдзее, у рот не лезе, а свежая аладка дык і смачная. У каго яшчэ малако было, дык і зусім добра.

— А дзеці любілі іх. Я ж, помню, не паспяваю на скавараду кідаць тыя аладкі: дзеці з рук хапаюць, гарачымі душацца.

— Каб ты, Кацярынка, ім блін пшанічны спякла, то, пэўне ж, на тыя б аладкі і не паглядзелі. Лепшага не было, дык і любілі, дык і душыліся.

5 Зак. 1585

— А я, бабы, дык і цяперака часам крапіўкі звару. Маладзенькая, пахучая. Дальбог, смачная.

— Чаму ж не будзе смачная, калі ты ў яе костку ўкінеш, яйка адварыш, смятанкай заправіш? Дзіва што будзе смачная!

— Ото ж ужо нагаладаліся людцы! Цяпер каму скажы каніну есці — ого! А тады ж... Помню, адноечы да сястры ў Айнаравічы пайшла, дык яна паставіла на стол місу катлет і частуе: «Еш, Кацярынка, свежанькія, учора толькі жарабятка дарэзалі». Я катлету ў рот, а яна — з рота. Так і расце там, так і расце. Назад яе гоніць.

— Гэта конскім потам смярдзіць...

— А Петрык, што ў Міхаськавай хаце жыў, еў — толькі давай. Сама бачыла, аднойчы цэлае вядро прывалок. Гэта як Ляксандраў Жук здох. Наесца і на цёплую печ. Дык мужчыны рагочуць: Петрык як жарабок страляе, у хату носа не патыкай...

— Цьфу, дагаварыліся! — перабівае бабка Марыля.— І вобаратнік, і крапіву, і шайморы елі тады ўсе, пасляваеннай нішчымніцай. І каніну. Каб толькі была! Хто, канечне, і гідзіўся... А што нагаладалі, дык нагаладалі! Голад не цётка. Помню Максіміху глухую...

— Гультайка твая Максіміха была!

— Цяперака табе добра гаварыць! Цяперака ты не гультайка! Не гультайка, калі ёсць і ў печы, і ў запеччу.

— Што цяперака і казаць! Кожная пані! Хлеб у магазіне прычарсцвее крышачку, дык ужо каторая і не бярэ: заўтра вазьму, свежы прывязуць.

— А свінням колькі хлеба глумяць!

— Хто гэта глуміць? А сама? Што, твой парсюк на траве такі гладкі?

— І я глумлю. Буханачку ў абед пакрышу і абмяшаю бульбу. А што рабіць? Дзе якой мукі ці вобмешкі купіць?

— А ўсё-такі грэх, бабы! Дзе гэта відана было, каб свінням хлеб скормліваць?

— Вядома ж, грэх! Вунь і ў газетах пра гэта пішуць. У «Вожыку» часта малююць, як магазіншчык хлебам свінню корміць.

— Га, каб жа толькі магазіншчык! А то ж...

— Ну, чаго ўжо вы! Муку ж, дзяшовую, нядаўна ў магазіне давалі, па мяху — па два бралі. Магазіншчык казаў, што скора зноў прывязе.

— Або, аб чым гаварыць! Пэўна ж прывязе!

— Та-а-ак... Што ні кажы, а перажылі людцы дык перажылі.

— І не кажы! Я ж як успомню Васіля свайго. У сорак чацвёртым, як нашы прыйшлі, пяты гадок пайшоў. Толькі і есці, толькі расці. Набегаецца за дзень, а тут ні хлеба скарынкі, ні малака кроплі. Свіцішча ўвесь. Пасаджу ў начоўкі купаць, дык аж боязна дакрануцца. Ручкі тыя як матузкі матляюцца, лапатачкі тырчаць — востранькія, як крылцы ў кураняці, а па спінцы хрыбетнічак — усе костачкі пералічыш, нібы пацеркі, на нітку насіляныя...

І зноў, і зноў плывуць успаміны аб галодных пасляваенных гадах...

## УЦЕКАЧЫ

— Бачыла сягоння, бабы, Зоню. Казала, Жэнька яе ўжо ў Мінску. На трактарным заводзе.

— Во, бачыш, і пагуляў пасля арміі нядоўга.

— Што ты, ён жа яшчэ летась прыйшоў. Скора год будзе. Зоня думала, што хоць ён дома застанецца. А то Зінка ў Мінску, Лёнька — у Мінску, Шурка недзе ў Барысаве, а матка адна дома. Нашто ёй і хата, і гаспадарка.

— Дык жа ўпрошвала. Астанься, казала, сынок, дома, на трактары рабіць будзеш, і капейчыну тую самую мець будзеш. Матацыкл, гармонік абяцала купіць... Дык жа не: упёрся — толькі ў Мінск. І во глядзі, ужо на трактарным. Зоня казала, што робіць на нейкай маленькай машынцы, ад цэха да цэха нейкія там цацкі возіць.

— Ну, а што ты хочаш? Усе ў горад ірвуцца, а ён што?

— Дык я не пра тое, Манька. Лічы, нікога дома не асталося. Як Ляксей кажа — тры хлопцы і чатыры з палавінай дзяўчыны. Астатнія ўсе паразбягаліся. А ўжо ж колькі гавораць пра гэта, ужо ж як цяжка, кажуць, у тым Мінску прыпісвацца, а ўсё роўна ж — уцякаюць, прыпісваюцца. Вось і Жэнька ж — неяк жа ўбіўся.

— Палучыў спраўку з саўхоза, дык і ўбіўся.

— Дык жа палучы тую спраўку ў нашага Жука! Юрава дзяўчына хадзіла-хадзіла да яго і нічога не выхадзіла.

— А Жэнька і не хадзіў. Мне ж Зоня хвалілася. Толя Антона Крыніцкага ў міліцыі робіць, дык Жэньку спраўку дастаў, што ён у міліцэйскую школу паступае. Жэнька з той спраўкай да Жука, дык Жук і адпусціў. А Жэнька пашпарт палучыў і на трактарны.

А прыпісаўся ў Зінкі. Ёй жа нядаўна кварціру далі, двухкомнатную...

— От скажыце, бабы, ніколі такога не было, каб так у горад перліся. Нам жа каб каторай сказалі — тады, як маладыя былі,— каб у горад пайшлі, дык пізавошта б. Боязна было. Ступіць, сказаць там не патрапіш, а не то што... А цяперака толькі каторае вылупіцца — ужо ў горад яму.

— Мы... Чаго мы там, у горадзе, не бачылі? Чаго, каб хто спытаў, дома нам не хапала?

— А гэтым чаго не хапае? Пасля вайны дык другое было дзела. Тады з горада ездзілі кантрактоўшчыкі, людзей вербавалі. Толькі едзь. І дарога бясплатная, і на дарогу давалі, і да першай палучкі дажыць. І ехалі людзі, бо ў горадзе хоць хлеба кавалак быў. Заробіш, дык і з'ясі. Ды і людзі там патрэбны былі, усё ж спалена было, разбурана, адбудоўвацца трэба было.

— Дык то ж тады. А цяперака? Чаго гэтай Юравай дзяўчыне не хапае? Ці Жэньку Зоніваму? Каб жа хоць грамацеі былі, а то — па сем класаў ледзь паканчалі.

— Жэнька, Манечка, мусіць, і сямі не кончыў. З маім жа Валерыкам пачынаў хадзіць, але пасля некалькі разоў па два гады ў адной групе сядзеў.

— Дык я ж і кажу. Што такому грамацею ў горадзе рабіць? Вуліцы хіба падмятаць!

— А от жа на заводзе. На машыне робіць... Ты, Ганна, не кажы. Да вучобы ён, няхай сабе, і няздатны быў, але ж да машын яго цягнула. Вечна тырчыць ля Стэпчынага хлапца, як той на трактары рабіў. Хлебам не кармі, а дай якую гайку падкруціць. Я ж не раз чула, як Зоня

сварылася на яго — вечна прыйдзе дадому ў мазуце і тавоце. А да ўрокаў — хоць з-пад палкі... Выйдзе Зоня на вуліцу, бывала, і бядуе: радачкі няма, кажа, зноў на другі год, мусіць, пакінуць, можа, хай ужо і саўсім не ходзіць?

— Вы, дзеўкі, кажаце, чаго ў горад пруцца. Вы самі падумайце. Прыедуць з горада Войтавы ці Міхаліціны хлопцы, Бануковы — дык паглядзець люба. І гладкія, і чыстыя, і адзеты акуратна. І пэўна ж! Які там ім клопат, у горадзе! Адпрацаваў, адрабіў колькі там гадзін і ўсё тут. Ні аб дрывах, ні аб карове — ні аб чым галава не баліць. Там табе і танцы-шманцы, і ціятры, і паркі, і сталоўкі, і рэстараны. Дык будзе і гладкі, і чысты, акуратны. А наш запека? Корпаецца ў гразі, у пыле і брудзе. Не адно, дык другое, а заўсёды клопат нейкі ёсць.

— Кінь ты, Гэлька! Ужо там табе маліна, а тут... Думаеш, там усё з неба падае? Вунь, Лёнька Давыдава расказвала, яна на тым жа трактарным робіць. Ты думаеш, што ўжо ў горадзе, дык усё дармовае і нізавошта грошы тыя даюць. Каб зарабіць, трэба і парабіць. Як і ўсюды.

— А няўжо ж! Праўду, Кацярынка, кажаш. А што сюды прыязджаюць чысценькія ды акуратненькія, дык што ж ты хочаш? Каб ужо і да маткі ехаў так, як робіць?

— І ў нас цяперака, чуеш-далібог, няма чаго бога гнявіць. Чуеш-далібог, Марыля, што — ты галадаеш? Ці ў цябе адзець няма чаго? А ты, Ганна? Каб не было чаго, цілівізара не купляла б!

— Я ж і не кажу нічога. Чаму ж няма! Дзякаваць богу, ёсць. Але ж маладым от усё роўна ў горад хочацца.

— Ведама, маладым — маладое ў галаве. Тут во вечарынку зробяць, дык і гуляць няма з кім. Дзевачкі маладыя паскачуць адна з адной і разыдуцца. А там з усяго свету панаехаўшы.

— А як на мой дурны розум, дык гэты горад — як мода якая! Абы кім, толькі ў горад! Другая не саромеецца за малым падціраць, але ўсё роўна — у горадзе: абы туды ўплішчыцца. Я, старая, дык і то не згадзілася б.

— Старая, дык і не згадзілася б. Табе ж не хлопцы ўжо ў галаве.

— Гэта, што вы кажаце, ярунда ўсё, што там у галаве — хлопцы ці танцы. Але што ўсё-такі, бабы, будзе? Нікога ж не астаецца! Толькі школу кончыў — і няма. А на зямлі працаваць каму? Мы састарэем, а што тады?

— А ты не бядуй. Зямля, дзякаваць, не пустуе. І ў полі нічога не зімуе.

— Зімавала б, каб не машыны. Калі ты ў рукі серп брала? Можа, калі толькі бульбоўнік ці абмежак абжаць. Андрэй, кажуць, сярпы ўжо развучыўся зубіць.

— Ты, Волька, кажаш, хто на зямлі рабіць будзе. А твае? Тры хлопцы і дзеўка ў Мінску. А ты адна тут. Чаго тады пра другіх гаварыць?

— А што — мае горшыя?

— Ат, усе добрыя! Як гаварыць, дык мы ўсе ахвочыя і разумныя, а як...

— Ну, ціха, ціха, бабы! Не сварыцеся... Вот паверыце ці не, а мой Леўка кажа, што з радасцю б вярнуўся дамоў. І кватэру — неблагую, праўда, высакаватую, на пятым паверсе,— мае ў Мінску, і работу добрую, а вот, кажа, каб жонка згадзілася, дык і пераехаў бы.

— Гэта, Кацярынка, толькі кажа так. А каб

прыйшлося да дзела, дык яшчэ і невядома, як бы там...

— А не, Марылька, не кажы. Я ж бачу. Меншы, Пецька, прыедзе, дык і не паглядзіць, каб зрабіць што, памагчы. А Леўка — ні мінуты не пасядзіць. На дрывотні парадак навядзе, паркан дзе падлатае, яблыньку, пойдзе ў сад, падапрэ. А то прыйдзе з гумна і — мама, кажа, пара бульбу другі раз абагнаць, схаджу да брыгадзіра, можа, каня дасць. Вот усё яму рупіць, усё агледзіць.

— Такі ён ужо ў цябе ўдаўся, Кацярына. Да чаго змалку прывык, дык да таго і душа горнецца.

— Дык я ж, Марылька, і гавару. Вот любіць ён гэтую нашу работу і ўсё.

— Дык от і бяда ў тым, бабы, што дзеці гэтай нашай работы, як Кацярына кажа, не любяць. Ні араць, ні касіць, ні гной капаць.

— А што ты хочаш! А дзе яны маглі навучыцца любіць? Тут і старыя, быў час, не вельмі ўпадалі. Я ж, помню, бацька мой, яшчэ да калгасаў, дык хіба ён спаў калі да сняданпя? Ні ноч, ні зара ўзаб'ецца на ногі і з хаты. Пакуль матка снеданне падасць, дык ён паўполя абегае, касу наклепіць, калёсы падмажа, вупраж падшые. А цяпер мой Пётра ляжыць, пакуль снедаць не ўспару.

— Яно, Ганна, і праўда, і няпраўда. Тады хто твайму бацьку пасобіў бы? Самому на ўсім трэба было пуп іrваць. А цяпер усё-такі не тое. Ніхто не надрываецца, але ж ніхто і не сядзіць, склаўшы рукі. Усе робяць. Бо каб жа не рабілі, дык і не мелі б.

— Але, але, бабы! От хай скажуць: бяры зямлі колькі хочаш, коней, кароў заводзь, пра-

цуй на сваёй гаспадарцы, дык хто ў нас згадзіўся б? А ніхто б, пэўна.

— Пэўна ж, ніхто. На ліха каму здалося ўсё тое, і коні тыя, і гаспадарка? Цяперака ж ці я, ці ты, ці хто другая як людзі жывём. Пацярабіў, зарабіў, дык і жыві. А састарэў, дык пенсію даюць, не трэба клапаціцца, што дзеці табе ў рот глядзець будуць.

— А, дзякаваць, дажыліся. І хлеба ёсць, і да хлеба. Ці ты, Ганна, думала калі, што жыць так будзеш? І табе — пенсія, і Пётру твайму — пенсія, а яшчэ соткі, карова, свінчо,— жыві і не памірай. Цілівізар глядзі... А што маладыя ў горад хочуць, дык хто ж іх ведае. Маладыя — не дурнейшыя за нас. Вучоныя ўсе. Можа, і трэба так. А не — дык, дай бог, дажывём, што і з горада ў вёску прасіцца будуць.

— Але, але... Можа, і дажывём...

## ВАЙНА

— Ну ж і перапалохалася я, дзеўкі, мінулай ноччу! Думала — вайна... Прачнулася, ажно гулу поўна вуліца. Ляжу і ўцяміць нічога не магу. Падхапілася і да вакна. А там машын — поўна, адна за адной сунуцца. І агнёў не паляць, а з маленькімі, сіненькімі агеньчыкамі едуць... Божачка, вайна, думаю! Толькі чаго ж яны з-пад Гайны едуць, а не з-пад Мураванкі? Тады ж з-пад Мураванкі сунуліся. І гэтак, як учора. Ноччу, адна за адной, раўлі машыны. Толькі тады агнёў не тушылі. Я з дзецьмі за грубкай сядзела, а па вокнах святло раз-пораз жых-жах, жых-жах...

— Манеўры, відаць. Паехалі страляць вучыцца.

— Я ж таксама прачнулася. Сядзела ля вакна, пакуль не праехалі. От жа і машыны! Здаецца, каб каторая хату зачапіла, дык і развярнула б.

— Дзіва што развярнула б!

— А от жа бедныя салдацікі. Поўнач, а яны не спяць, едуць некуды... І мой жа, мусіць, во гэтак недзе.

— Не бядуй, прыйдзе ў водпуск, дык паглядзіш, які гладкі будзе. Лепшы, чым на тваіх харчах. Ноччу не даспяць, дык днём. У лес дзенебудзь заедуць, паспяць. А маладыя, дык яшчэ з большай ахвотай з'ядуць.

— А ў вайну, Ганна, немцы не так ехалі. Ноччу тады не першыя былі. Першыя, помніш, днём перліся. З-пад Мураванкі. Ехалі, як на парадзе якім, што па цілівізару паказваюць. На машынах музыка, гармонікі губныя, патэфоны. І ўсё рускія, нашы песні круцяць. Ехалі вясёлыя.

— Каб ім тая весялосць сто гадоў бокам вылазіла! Каб яны дзетак сваіх ніколі не пазналі, як мы сваіх не пазнавалі!

— Ехалі вясёлыя, праўда. І добранькія былі спачатку. Адзін даўгалыгі быў саскочыў з машыны, піць захацеў. Рагоча, рагоча, рагаціну сваю наставіў: «Камуніст — пуф-пуф, а матка, кіндар — не пуф-пуф...» А пасля ні матак, ні кіндараў немодзі не шкадавалі.

— Першага ж у нас, мусіць, Рыгора Жызнеўскага забілі. Якраз тым летам хату мне канчаў. Казаў: «Пакладу табе, Кацярынка, такую падлогу, што як тупнеш — аж хата зазвініць. А са столі ніводная парушынка не прасыплецца...» Толькі адну зімку і пастаяла хата. І на

ўваходзінах, Рыгорка, так ніхто і не тупнуў па тваёй падлозе, спалілі хату...

— Не, Кацярына, Рыгора неяк пазней забілі. Першых жа, помніш, Шульмана разам з Рохай і Люсем.

— Дзе ж разам! Роха жыта на Дадатках жала. Прыбегла, а яе Мэндаль і Люся ляжаць на парозе акрываўленыя. Дык яна як трымала серп у руках, так і паласнула сябе па горле.

— Мне дык яна і цяпер уваччу стаіць. Белая ўся, як палатно, так кроўю сышла.

— А бяскрыўдныя ж былі людзі, бабы. І Мэндаль, і Роха. Мэндаль, праўда, на зямлі не рабіў, але ж затое хамуты і вупраж для калгаса шыў, а то каму і боты падаб'е. А Роха ж разам з бабамі — і ў полі, і на сене.

— Дык, мой бог, ці мала было такіх! І ў Гайне, і ў Янушкавічах... Жылі, як і ўсе людзі. А от жа Гітлер не ўзлюбіў іх за нешта.

— А каго ён, той Гітлер, любіў? Цябе, можа?

— Я дык ніколі не забудуся, як Тэклю з Паўлючком забілі. У Тэклі ж нікога і не засталося, чалавек яе пайшоў, разам з усімі, у сорак першым, з тваім Пётрам, мусіць, разам, Ганна. Прыйшлі мы пахаваць яе па-людску. Прыйшлі, а яна ляжыць, Паўлючка свайго абняўшы. Ёй у грудзі пацэлілі, а хлопчыка, мусіць, пасля застрэлілі, як падышлі, бо проста ў галоўку, лобік начыста счасаны. Чуеш-далібог, кажуць жа, што Франуся Рыгорава сама хлопчыка ў лесе ўтапіла. Крычаў вельмі, а немцы блізка падыходзілі...

— От жа і не брашы! Хто гэта кажа? Пауліна-нябожчыца разам з Франусяй была, дык расказвала. Хлопчык расплакаўся, крычыць,

а немцы абкружаюць, на голас ідуць. Дык тады Рыгор у Франусі вырваў малое з рук, захутаў у коўдрачку, на купіну пад елку палажыў, а самі ўцяклі. Уратаваліся, вярнуліся назад, знайшлі хлопчыка, а ён — захлынуўшыся. Споўз з купіны ў балотную рудаўку. А можа, і немцы там прайшлі, дык малога ўтапілі. А то — Франуся, Франуся...

— Але, чуеш-далібог, каторая б гэта матка кінула б сваё дзіця? А от бацька, чуеш-далібог, кінуў, на верную смерць кінуў.

— Бацька... І бацькі розныя. Другі больш за матку шкадуе. А цяперака лёгка казаць: кінуў, утапіла... А што Рыгору рабіць аставалася? На руках, акрамя таго, самага меншага, яшчэ чацвёра. Іх ратаваў, можа. Лёгка цяперака казаць...

— І то праўда, Марылька! Цяперака мы ўсе разумныя. А тады кожны як мог ратаваўся. І, пэўна ж, сябе не шкадаваў, а хаця, каб дзетак ўратаваць. Бяжыш у Лучкі ці пад Красную горку, адно на руцэ, другое на спіне, за шыю цябе ашчарэпіўшы, трэцяе за спадніцу трымаецца, бяжыш, аж дух займае. Але ж бяжыш. Дзе і сіла бралася. А тут яшчэ і хлеба акраец трэба цягнуць, бо есці ж захочуць. Пот вочы залівае, сэрца, здаецца, з грудзей вырвецца, а — бяжыш...

— Пэўне ж! Кожная матка не вораг сваім дзецям. Якая б яна ні была, але ж матка. Вунь, Барбара Краўцова, хіба яна хацела смерці сваёй дачцэ? Прыехалі немцы і паліцаі забіраць іх — пранюхалі, што хлопец Барбарын, Алёшка, у партызанах. Дык Лёня, ужо ж ладнаватая была, гадоў чатырнаццаць, праз акно выскачыла з хаты ды ў кусты, на балота. Хата ж Бар-

барына якраз ля рэчкі стаяла. А Барбара выскачыла ўслед ды і пачала крычаць: «Лёнечка, вярніся! Што ні будзе, усім адно! Няўжо ж яны вас зачэпяць, малых? Вярніся, Лёнечка!» Лёня і вярнулася. А іх завезлі ў Баранава і пастралялі. Усіх, і старых, і малых. Кажуць, Барбара да самай смерці не верыла, што і дзяцей пазабіваюць. Думала — толькі яе самую заб'юць, а дзяцей у Нямеччыну завязуць. Дык яна прашчаецца з імі, а Лёні ўсё наказвае: «Ты ж, Лёнечка, глядзі, малых не крыўдзі. За матку ім астаешся. А там, дасць бог, Алёшка вернецца, неяк і пражывяцё. Людзі памогуць. Глядзі ж, Лёнечка». А іх усіх і палажылі ў Баранаве, на палянцы.

— А як вёскі палілі? Божа мой, божа! Ночкі, здаецца, не было, каб дзе зарава не палала. У нас жа во хоць сёе-тое паасталалася, а ў Стайках, Айранавічах, Альхоўцы, Ганях, Чырвоным Бары — толькі коміны чорныя ды галавешкі.

— Каб жа толькі хаты пазгаралі. А то ж — і з людзьмі. Пазганяюць у пуню ці хлеў і падпаляць...

— Гэта ж, чуеш-далібог, праўду такі ў бібліі гаварылі, што чалавек чалавека гукаць па свеце будзе — такая вайна пракацілася...

— Дык жа і гукалі, і не дагукваліся. І ты, Гілена, не дагукалася, і Зося не дагукалася, і Шурка, і Манька во, і я... Ды хіба толькі мы? А колькі дзетак бацькоў не дачакаліся, колькі матак дзетак сваіх не пабачылі.

— А от жа, Марылька, зноў неспакойна. Я от бульбу скрабу ці што іншае раблю, а сама радыё слухаю, дык — толькі ж пра вайну і гавораць. І там страляюць, і там бомбы кідаюць,

і там паляць. А ўсё мерыканцы гэтыя. Дзе і жывуць, каб хто спытаў, за светам недзе, а ўсё ім мала, усюды лезуць. Няўжо ўжо той вайны было мала?!

— А таму, Кацярынка, што яны вайны, кажуць, не бачылі. Да іх не дастала. От каб самі тое перажылі, што мы, каб пагаравалі гэтак, дык быць не можа — дзесятаму б заказалі. А так усё чужымі рукамі жар заграбалі. Яны — далёка, да іх не дастануць, дык ім і што! А другія хай сабе гаруюць, хай кроў праліваюць... Але ж трасцу! Не дай бог, усчыніцца зноў, дык і да іх дастане!

— Усё роўна, Марыля, дастане ці не дастане, а хай лепш не ўсчыніцца. Бо гэта ж, кажуць, і свету канец будзе. Гэтыя бонбы атамныя, ад іх жа, кажуць, не схаваешся. Як плясне, дык на цэлыя кіламетры толькі попел астаецца. Кажуць, камень плавіцца...

Жанчыны божкаюць.

— І выдумаюць жа розную халеру! Чуешдалібог, у тую ж вайну ўжо, здаецца, столькі панавыдумлялі, а тут зноў... Гарыць яна няхай гарам, вайна тая! Абжыліся людзі, дык... І ў Германіі той зноў нешта робіцца. Я ж дурная баба, але ж, чуеш-далібог, па радзіву толькі пра тую Германію так і гавораць, так і гавораць. Мой Юлік галаву пад Берлінам злажыў, аж туды дайшоў, а яны зноў там...

— Там жа, Гілена, цяперака дзве Германіі. Адна ж з намі дружыць. Унь Марат Рыгораў служыў там, у Германіі. А гэта, што ты кажаш, гэта другая...

— Дык я ж і кажу пра другую!.. Але ж быць не можа, мы ж таксама навучыліся. Хоць на слязах ды крыві, але ж навучыліся. Сын мой,

бабы, кажа, што калі зноў што-небудзь усчыніцца, дык так, як тою вайною, не будзе. Не будуць нашы спаць у шапку.

— Навучыліся, Манечка, але ж — хай будзе спакойна. Лепш холад, голад, напасць якая — толькі б не вайна. Усё можна перацярпець, да ўсяго прывыкнуць, толькі б не вайна.

— Каб жа даў бог...

## СВАЁ І ЧУЖОЕ

З гары па вуліцы нехта ідзе. Жанчыны ўзіраюцца, гадаюць:

— Не Толя Анціпаў?

— Не, мусіць, Косця Хрысцінін.

— Або, бабы, ці вы паслеплі! Ляксей гэта ж!

— А й праўда Ляксей! Адкуль жа гэта ён?

— На полі, пэўна, недзе быў.

— Ото ж учора на нас крычаў! Мы ўжо думалі — горла сарве!

— А за што?

— Мы сена ў пуні складалі. Канюшыну. Сем гадзін надышло, дык мы сабраліся і дамоў. А мужчыны яшчэ па вазу прывезлі. Выкулілі ля дзвярэй, а ў пуню не ўцягнулі. Дык яна так і засталася ляжаць нанач.

— Ну, дык чаго ж ты, Волька, хочаш? Правільна, што і накрычаў. Ну як гэта так: сухое сена ля пуні пакінулі! А каб дождж?

— Мы і так падушыліся. Мужчыны дык ля дзвярэй пасталі, у пуню ўкінуць — і ўсё. А нам, бабам, па ўсёй пуні яго расцягвай, пад самыя зашчыткі валачы. І так рукі паадрывалі. Каб хоць сена, а то канюшына... Рвеш-рвеш яе віламі...

— Дык жа ці ў вас языка няма? Сказалі б мужчынам, памяняліся. Але як гэта так — пакідаць сухую канюшыну нанач?

— І што ты, Волька, яшчэ апраўдваешся? Ці я ніколі на сене не была? Колькі вас, баб, там было? Дванаццаць? А падвод? Воз скідаеце і паўгадзіны лежыцё! Што, я не ведаю? А то ўжо — рукі паадрывалі!

— О, няма ўжо. Завярнуў да некага.

— Хто?

— Ляксей, хто ж. Да Андрэя, відаць...

— Ну, добра, Зося, ты ўжо работніца, а я толькі і раблю таго, што вылежваюся,— Волька злуецца.— Але чаго ён крычыць на ўсё горла?

— Ён жа брыгадзір. Табе што ад таго, каб тая канюшына пад дождж папала? А яму? Так бы шыю намылілі, што ой-ё-ёй!

— І праўда! Вось ты, Марыля, скажы. Помніш жа, разам з табой хадзілі да Ёські на сена. Хто калі глядзеў на часы тыя? Пакуль усё ў копы не зложыш, ніхто і не думаў дахаты ісці. І ацямнее, бывала, на лузе. А тут сем гадзін, сонца яшчэ ўга дзе, а яны ўжо дахаты!

— А чаму ж гэта я павінна ацямнець там? Сем гадзін адрабіла і ўсё тут. Па закону. І хай ён глоткі не дзярэ.

— Волечка, ну што ты заладзіла — сем гадзін, сем гадзін! Па закону... Добра законы ведаеш. Што ж, ты хочаш раўняцца на гарадскіх? Калі гэта ў нас па часах рабілі? Што б гэта людзі мелі, каб па часах і сеялі, і жалі, і касілі, і бульбу выбіралі?

— А чаму гэта я павінна душыцца ад цямна да цямна? За трыццаць рублёў?

— Чуеце, бабы, яна душыцца ад цямна да цямна! Дзе гэта ты калі душылася? Сонца ўжо

вунь як высока, а ты дрыхнеш яшчэ. Бясстыдніца ты, Волька, бясстыдніца!

— Дык, чуеш-далібог, бабы, ёй ужо не падабаецца і рабіць за трыццаць рублёў. А колькі ты, чуеш-далібог, хацела? А як жа пасля вайны зусім, лічы, дарма рабілі? Калі палучыш па дзвесце грамаў на працадзень гірсы якой, дык і то добра. А то, чуеш-далібог...

— І не трыццаць жа ты зарабляеш. Пастараешся, дык і пяць чырвонцаў маеш. От людзі! Як ім лепш, дык усё мала! Кепска было, як раней нічога не мелі. Як цяперака кожны месяц капейка свежая, дык зноў кепска!

— Чаго вы на мяне ўз'еліся? Што, я пасля вайны не рабіла? Цяперака ад работы ўцякаю? Як усе, так і я. А болей за ўсіх мне не трэба.

— От гэта, Волечка, і кепска, што нікому нам болей за ўсіх не трэба. А матка твая, нябожчыца, не пыталася, ці болей ёй трэба было, ці меней. Як пойдзем, бывала, жаць, да вайны яшчэ, дык як на сваім завіхаешся. І яшчэ лепш. Каб, бронь божа, каласок які не прапусціць. За сваё, як ні зжаў, ні перад кім не сорамна. А тут кожнае вока прыкмеціць, як Волька жала, а як Марыля ці Паўліна.

— Праўду кажаш, Кацярына! Гэта цяперака — ці то свет сапсаваўся, ці то ўжо людзі такія пайшлі. А даўней над калгасным больш трасешся, бывала, чым над сваім.

— Не, Марылька, так таксама не трэба казаць. І даўней людзі розныя былі. Адзін трасецца, шчыруе, а другому — абы зрабіць.

— Дык яно, вядома, розныя былі. Але ж, Кацярынка, усё ж, здаецца, больш парадку было. Баяліся больш, ці што. Ці, можа, яшчэ бога баяліся?

— Ат, кінь ты ўжо бога таго, Марыля! Хто яго калі баяўся? А парадку дык большага, пэўна, не было. Цяперака во парадак: парабіў, дык і зарабіў. Самы лепшы парадак.

— Ат, заўсёды здаецца, што даўней лепш было. А жыць цяперака ўсё-такі лягчэй. І багацей, і сытней, і спакайней.

— А ніхто, Ганначка, нічога і не кажа. Канечне, лягчэй. Ды і людзі жыць навучыліся. У майго бацькі тры каровы было, а, дальбог жа, бабы, малака ў сям'і не бачылі. Колькі таго малака каровы давалі! Каторая каза болей!

— А чым жа іх кармілі, помніш? Калі карове даўней бульбіна перападала ці бурак той? Сена людскага і таго не хапала, поснай сечкай і саломай давілася.

— Дык я ж і кажу! А цяперака адна карова, а ў хаце масла не зводзіцца і смятана кожны дзень.

— А бульба, бабы, калі такая расла? Хто калі даўней пад бульбу гной той клаў? Усё на лён ды на жыта. А цяпер з сотак — бульбы хоць засыпся...

— Што і казаць. Навучыліся людзі жыць. Вазьміце во — калі хто так будаваўся? Унь, Толя Маханоў хату зляпіў — што цацачка. У горадзе не лепшыя. І ў хатах усяго ёсць. Не тое, што раней.

— Ну, а ты, Зося, паедзеш у Гайну? Чула, там табе куток саўхоз дае. У новым доме, што каля магазіна. Там, кажуць, і вада ў хаце будзе, і на двор зімою бегаць не трэба, і дай ты веры — свая лазня!

— Што мне той куток! Во, хай тут новую хату ставяць, на бацькавым котлішчы. Калі зарабіла, заслужыла, дык хай ставяць. А ад-

сюль нікуды не пайду. Тут з людзьмі ўсё жыццё пражыла, тут і памру.

— Паміраць, Зоська, рана яшчэ, яшчэ сына пастаў на ногі, жані...

— Чуеш-далібог, я ж чула, што магазін новы будаваць будуць, і пошту, і пункт хвельчарскі. І ўсё з цэглы.

— Пэўна ж, Гіленка, будуць. Магазін жа хоць стары, але ліпіць яшчэ, а пункт жа і пошту раскідалі. Дык пэўна ж ставіць будуць.

— Дык я, чуеш-далібог, Кацярына, не пра тое. Кажуць жа, будуць ставіць там, дзе некалі карчма была, а пасля пуня Парасчына стаяла, у канцы вёскі.

— А хіба лепшага месца няма? Чаму во тут не паставіць, пасярод вёскі? І суха, і ўсім блізка.

— О-о-о, табе, Ганна, была б зусім выгода. Пад вокнамі і магазін, і пункт. Але ж хто гэта цябе паслухаецца?

— А чаму гэта — хто паслухаецца? А калі ўсе людзі скажуць?

— От каб усе людзі настоялі, дык тут бы і паставілі. А то — аднаму тут лепш, другому — там...

— Ты тожа скажаш! Аднаму — тут, другому — там! А трэба, каб усім лепш было. У сельсавеце ж не дурні сядзяць. Будаваць, дык каб людзям добра было.

— Калі ж з людзьмі, Манечка, не заўсёды лічыліся... Ну от жа: лямпачкі на вуліцы павесілі, а не гараць. Цяпер не гараць, дык такой бяды, цяпер і так відна. А вясною таксама не гарэлі. І восень прыйдзе — зноў гарэць не будуць?

— Кажуць жа, нешта там перагарэла.

— Рале нейкае!

— Ат, перагарэла! На ферме дзяжурны заўсягды ёсць, мог бы і ўручную ўключыць і выключыць.

— Ну, добра, ты тут гаворыш, а хоць бы таму Ляксею гаварыла? Не гаварыла! Тут мы ўсе смелыя, а як дзе трэба — дык і рота не раскрыем.

— Успомніш тут пра ўсё! Сноўдаешся цэлы дзень, здаецца, і не рабіла нічога, а к вечару ногі як чужыя. Ледзь да ложка дапаўзеш. Дзе ўжо тут у галаве да лямпачак тых?!

— Табе не ў галаве, мне не ў галаве, а каму? Думаеш, Ляксею таму менш галава баліць? Яму ж усю гаспадарку дагледзь, пра ўсё паспей падумаць.

— Ведама, языком мы ўсе брахаць умеем, а от зрабіць... Але ж чалавеку заўсягды сваё бліжэй было. Чужая болька не баліць, а свая цёнгле шчыміць.

— Ну, не кажы! Каб толькі свае болькі лячыў, дык не быў бы дужа здаровы. А як усім баліць, дык сваёй болькі быццам і не чуеш. Ці не праўда, бабы?

## «ЦІЛІВІЗАР»

— Што сягоння, Ганна, па цілівізару?

— А ўжо нейкае кіно ідзе. Пра вайну. Пётра сядзіць, глядзіць, а мне ўжо надакучыла пра вайну. Усё бегаюць, страляюць...

— От, Ганна, і мне абрыдзела. Пойдзеш з унукам, як у клуб прывязуць, дык ён на ваенным нізашто не засне, а я сяджу і драмлю. А от калі якое жаласлівае, пра любоў, тады і я пагляджу. Так ужо хораша любяцца! Помню,

нейкае было, дык бацька ўсё дачкі не аддаваў, бо хлопец бедны быў, а яна ўжо яго так любіла, так любіла, што аж рукі на сябе налажыла. А ўжо спявалі — заслухаешся. І ўсё не наскае было. І песні не наскія, і адзяваліся... Мужчыны, як жанчыны, у спадніцах ходзюць, абкруцяцца сувоем палатна і ходзюць...

— Гэта, цётка, мусіць, індзійскае кіно. Там усё пяюць, плачуць і танцуюць...

— А я ў хаце адна, дык радзіва ніколі не выключаю. Бывае, калі дзень дажджлівы, у хаце тырчыш, дык от ужо наслухаюся. І насмяюся, і наплачуся.

— А йшчэ ж, бабы, як казкі пачнуць перадаваць! І лісой, і ваўком, і мядзведзем як пачнуць гаварыць! І ўсё ж арцісты! Трэба ж так умець. Адноечы пра жорава перадавалі. Як скажа: «Баба, а баба, гэта ж жораў у наш гарод панадзіўся». А яна як зложыцца: «Які жораў? Што ты чаўпеш, стары ёлупень?» Нарагочашся! Трэба ж умець так!

— Дык жа ім за гэта грошы плоцюць!

— От хай табе заплоцяць — пабрашы ты! Пэўне ж, плоцяць. Ім жа таксама жыць трэба, натое ж яны і арцісты. Не кожын жа так сумее.

— Ай, вунь наш Валодзя каго хочаш перадражніць. Як выказерыцца, як скрывіцца, ды яшчэ языком прыложыцца,— каго хочаш пакажа!

— Ат, Валодзя! Толькі і ўмее — перадражніць каго. А от каб на сябе зірнуў ды сябе перадражніў!

— А я, бабачкі, люблю пастаноўкі па цілівізару глядзець. Кіно — не так. А от пастаноўка...

— І я, Кацярынка, адну пастаноўку помню. Глядзела і наглядзецца не магла. Таксама пра любоў. Грэблю яшчэ там масцілі. Ото ж харошая пастаноўка. Не магла дачакацца, калі другую серыю паказваць будуць.

— О, не кажы! Хоць і гавораць трошкі не так, як у нас, і адзяюцца не так, але ўсё чысцютка праўда, быццам гэта і ў нас было ўсё тое. Я ж як глядзела, дык усё Зоню Хвалічышыну, з Айнаравіч, успаміпала. Мы з ёй разам у дзеўках гулялі. Яна, праўда, трошкі старэйшая за мяне была, але не намнога. Бацькі аддавалі яе за старога футаранца, на пяцёра дзяцей. Пакваліліся на багацце. Ото ж пагаласіла дзеўка! Пойдзем жыта жаць ці сена грэбсці, усе песні пяюць, а Зоня слязьмі заліваецца. Бацька дык мякчэйшы быў, ужо быў і шкадаваў дачку, а матка нізашто: ідзі, дурыла, бо чакаць чалавек не будзе, за яго любая пойдзе, ідзі, гаспадыняй станеш і целам свяціць не будзеш... От як і тую дзяўчыну з пастаноўкі.

— А от жа скулу, не ўжылася, збегла. А Зоня так і жыццё зжыла.

— Яна, бабы, таксама, можа, зжыла б, каб дзіцятка не пахавала.

— Яно, канечне, калі б дзецьмі абсыпалася, дык... Зоня вунь на пяцярых чужых пайшла, а яшчэ чацвярых сваіх знайшлося, куды ж тут уцякаць будзеш?! Ды і пара ўжо не тая была. Гэта ж у пастаноўцы дзяўчына пры савецкай уладзе ўжо такая смелая і разумная стала. А даўней так бы і мэнчылася. І ніхто б не паспагадаў, не заступіўся...

— Уга, колькі і мэнчыліся! І не толькі даўней. Во — Ліксандрынка наша. Усё жыццё і пражыла як на катарзе. Васіль-нябожчык на-

ват змоладу яе ні разу па імю не назваў, усё Склют і Качарга, Склют і Качарга.

— Але ж от скажыце, бабы, бедныя дык усюды бедныя, аднолькавыя. У нас во хоць і балота такога не было і няма, а ўсё адно: раз бедны, дык і гаруй век. А багатаму добра, дык яму яшчэ лепш хочацца. Знае, што дзеўка не любіць яго, а ўсё адно смалою лезе, бо ведае, што калі сама, па добрай волі, не пойдзе, дык бацька з маткаю выпхнуць. Калі красою не возьме ці розумам, дык багаццем. І ў нас жа так было. Вы, маладзейшыя, можа, і не помніце, а Марыля з Кацярынай павінны ж помніць...

— Дзіва што помнім!

— Я ж, бабы, сяголета кросны выткала. Доўга аснаваныя ляжалі, думала, злямчыліся ўжо. Але сяголета ўжо сабралася, нітак расстаралася. Сем посцілак выйшла. Дык, дальбог жа, мусіць, больш тыдня штовечар да Стэпкі бегала, на кросны забывалася, калі тыя канцэрты з Мінска перадавалі па цілівізару. Кожная вобласць канцэрт давала. Ды не арцісты выступалі, а самыя розныя людзі. Дальбог жа, лепш, чым арцісты тыя!

— Чуеш-далібог, і я ж тады колькі вечароў палец аб палец не стукнула. Як толькі сем гадзін, дык да Ганны бягу. Як выйдуць на сцэну вясковыя дзяўчаты і хлопцы, як запяюць! От жа, здаецца, і наша песня, простая, а яны як запяюць, дык, здаецца, мы такой і не спявалі ніколі.

— А помніце, з Магілёва бабы старыя выступалі? Ну такія ўжо порхаўкі! Пяюць, быццам на радзінах ці на вяселлі, але ж зладна, галосна.

— Я тады глядзела і думала: «А бабачкі ж

вы мае, і ахвота вам было за свет ехаць, косці свае старыя трэсці». З нас бы, пэўна, ніхто б не адважыўся. Хіба людзям на смех?

— Ну, а чаму, Зося? А то бы і сабраліся, і паспявалі б, Мінска паглядзелі б... Тут табе і пачот, і ў далонькі папляскаюць...

— Хоць бы адпачылі некалькі дзён, ад гаспадаркі адарваліся б.

— Ім жа, бабы, і не плацілі нічога, мусіць. Можа, хіба кармілі толькі?

— Плаціць-то, канечне, не плацілі. А калі і не кармілі, дык і за сваю капейчыну можна булку і кружку квасу купіць. Прывезлі, адвезлі дарма, дык можна колькі рублёў і з сабой узяць. Затое ж у Мінску выступалі, па цілівізару! Нашы во арцісты рады, калі ў Гайну ці ў Корань з'ездзяць, а то — у Мінск ды яшчэ па цілівізару!

— Але, бабы, і сабраць столькі арцістаў! Гэта ж, мусіць, з кожнай вобласці па тысячы чалавек было, а можа, і болей.

— Ну, а што? З усіх гарадоў, з усіх вёсак. Сабраць, Зося, не штука, а от навучыць усіх, паставіць так, каб усё правільна ішло, каб не збіўся ніхто...

— Ай, нашы вунь дзяўчаткі пасядуць ля Шахуновых, запяюць, дык так хараша слухаць. А каб яшчэ пад гармонік, дык каб яшчэ хто падвучыў, падказаў...

— Ведама, кожны чалавек на што-небудзь здатны. Толькі трэба яго часам павучыць...

— А што, Ганна, заўтра будзе?

— А хай ён гарыць — футбол гэты! Пётра з сынам ужо сягоння чакаюць — не дачакаюцца! О то ж зараза! Як прылепяцца да цілівізара, дык хай тут хата гарыць — не адарвеш...

А потым кіно нейкае будзе. А ў суботу «Ага-нёк»...

— О, на гэта я прыйду. Ты ўжо, Ганна, мой зэдлік не аддавай нікому...

## «ДЗЕДАВЫ ГАДАВАНЦЫ»

Па вуліцы, міма нас, ідзе трое падлеткаў. На плячах у аднаго валейбольная сетка, у другога пад пахай — мяч. Трэцяга, самага меншага, я не пазнаю: вырас без мяне. «Чый гэта можа быць? А мо чый унук гарадскі?»

Калі яны праходзяць, гукаю да жанчын:

— Чый гэта меншы, у тэнісцы?

— У безрукаўцы? А бо, Коля, гэта ж Ніны Хведаравай. Сярэдні. На яе і падобны. Такі ж рабаценькі, бялявы. І смяецца гэтак жа, як Нінка...

Жанчыны хвіліну маўчаць. Потым цётка Зося кажа:

— От, бабы, Ніна і без мужыка, бачыце, траіх сыноў займела. Займела і выгадавала. Адзін у арміі ўжо служыць, і гэтыя два падцягваюцца.

— Дык хіба адна Ніна? А Волька? А Стэпка? А Ніна Нупрэева?

— А ўсё ж, бабы, вайна нарабіла,— уздыхае Кацярына.

— Праўду, Зося, кажаш! І ты, і я, і Манька во, і Марыля таксама пазаставаліся без мужыкоў, дык у нас хоць дзеці былі. Як ні цяжка было, а ўсё ж лягчэй, чым той жа Ніне Хведаравай.

— Чаму ж гэта лягчэй? Што ёй адной, а што на траіх-чатырох выстрачыць.

— Не пра тое я, Ганна!

— А пра што?

— Ведаеш, пра што!

— А я ж, чуеш-далібог, і яшчэ скажу,— перапыняе Зосю цётка Гілена.— Мы сваё хоць трохі адгулялі перад вайною. Колькі таго гуляння было, а ўсё ж. А Волька ці Ніна і таго не бачылі. Што, чуеш-далібог, няпраўду кажу? Ніне да вайны колькі было? Гадоў дзевятнаццаць. Самая дзеўка. Гэта цяперака дык вучацца, пра замуж у дваццаць гадоў не думаюць. А даўней, чуеш-далібог, толькі замуж і ісці. І, думаеш, хлопца сабе не знайшла б, каб не вайна?

— Праўда, Гіленка! А за вайну дык дзеўка і ўрудзела. А дзе тыя хлопцы пасля вайны былі? Ляксей ды Ванька Міхалінін толькі і вярнуліся. Калі які смаркач за вайну падцягнуўся, дык хіба ж ён ёй пара?

— Яно ведама! Але ж, Кацярына, было... Яна ўжо і ў гадах дзеўка, баба, можна сказаць, а з падлеткам у стозе скруціцца. Што, не было такога? Было ж! Дык я і кажу...

— Чуеш-далібог, ты таго не бачыла, дык і не кажы. Мала што людзі могуць плявузгаць!

— Бачыць — не бачыла, але калі не сляпая, дык паглядзі. Нінчын Генка кроплі пабраў хлопца Васілёвага. А колькі тады было таму Валерыку Васілёваму? Добра, калі семнаццаць!

— А от каб прыгледзелася лепш, то, можа, і ўбачыла б, што той Генка Нінчын на твайго Пётру змахвае.

— Цьфу на цябе, цьфу! Яшчэ што выдумай!

— А, не ў нос? А навошта ж на іншых гаварыць?

— Я, дзеўкі, дык ні Нінкі, ні Волькі, ні

Стэпкі не ганю. Веку ж трэба з кім дажываць. А дзіця ўсё роўна дзіця, ад якога б бацькі ні было.

— Пэўне ж! А яшчэ ж, бабачкі, колькі і дасталося ім за байструкоў гэтых. Цяперака дык папрывыкалі ўжо ўсе, быццам яно так і трэба. А тады? Колькі аднае гамонкі было, колькі таго абгавору і нагавору!

— А дзецям? Дзе хто што зробіць, учыніць што — усё на іх, на «дзедавых гадаванцаў». У сад чый дзеці ўскочаць, дык толькі іх і бачылі, іншых не прыкмячалі.

— Але ж, Зоська! Я ж на свае вочы бачыла, на свае вушы чула. Палашчу неяк адзежу на кладцы, аж чую — Анэтка крычыць: «Ату на вас, ату на вас! Людцы, ратуйце, зноў гэтыя байструкі жыцця не даюць!» Гляджу, аж праз Анэтчын паркан куляюцца падшыванцы. І мой там быў, і твой, Ганна, Алёшка. А апошні перакуліўся цераз паркан Толя Стэпчын. Анэтка яго ледзь не ўлавіла. Стаіць па той бок паркана і лямантуе: «А каб жа цябе зямелька не насіла, як цябе сюды насіць! А каб жа табе рукі скруціла, як ты тыя сукі паскручваў! А каб ты долі сваёй не прыждаўся, байструк няшчасны!» Усе дзеці ў кусты пашыліся, а Толя сцежачкай дадому паплёўся. Ідзе і плача, бедненькі. Кашулька са штонікаў выехала, штонікі тыя на адной шлеячцы матляюцца. І яблыка ў яго ніводнага не было. Старэйшыя, спрытнейшыя каторыя, дык, можа, і адарвалі, а ён, пэўне, і не дабег да яблыні той. Мой пасля казаў, што Толя на варце стаяў, Анэтку пільнаваў, каб яна не заспела знянацку. А от жа яна яго ўбачыла, на ім злосць спагнала...

— А хіба толькі Анэтка? Былі ж і яшчэ

людзі. От ведама — сірату лягчэй пакрыўдзіць, няма каму заступіцца,— цётка Манька ляпае рукой па назе, адганяючы, пэўна, слепня.

— Крыўдзілі-то яно крыўдзілі, Манечка, але ж не ўсе. Многія і жалелі. Нашто ўжо Анцюк-нябожчык звераваты быў, сваіх дзяцей, здаецца, не любіў, а й то ж. Злавіў у садзе Воўку Драздовага і Вольчынага Пецьку. Дык дай ты веры: Драздовага хлопца добра-такі крапівою паджыгаў, а Вольчынаму насыпаў яблыкаў повен прыпол. Толькі сказаў напаследак: «Бяры і еш, а сам не лезь! Папрасіць язык не адваліцца!»

— А старэйшы Нінчын, Сяргей? Помніце, як да дзеда Грышы прывязаўся? Як толькі ўбачыць дзе, так і бяжыць напярэймы. А дзед яму то яблык дасць, то яйка, то цукеркай пачастуе, калі з крамы ідзе,— Грыша ж заўсёды цукеркі купляў, чай піў толькі з цукеркамі, у прыкуску. А ў школу Сяргей пайшоў, дык Грыша і партфелік яму купіў, і шапку зімовую, са скураным верхам, і паліто, і чаравікі...

— Дык, чуеш-далібог, прыязджаў жа Сяргей гэты Нінчын хаваць Грышу. Плакаў, як па сваім. Старая Грышыха казала пасля, што і грошы на стол даваў.

— От бачыш! Дзіця ласку помніць. Малога не абманеш. Чуе, хто да яго па-добраму, а хто па-благому.

— А бо! — Кацярына выцірае ражком хусткі вочы, усаджваецца ямчэй.— Дзіця заўсёды да харошага чалавека горнецца... А от жа, бабы, і павырасталі. Толя Стэпчын армію адслужыў, у Мінску ўладкаваўся, жаніўся. Сяголета прыязджаў з сям'ёй. Стэпцы ўжо радасць! І ўнучку прывёз...

— Дзіва што! Чаму ж не будзе рада! Як і кожная матка.

— А божа мой, што і казаць! А нашы дзеці — хіба лепшыя? Таксама ж без бацькоў гадаваліся.

— Ну, не кажы! Без бацькі то яно без бацькі, але ж хоць ведалі, хто іх бацька. Хоць па картачцы...

— Мае, Марыля, дык і на картачцы не бачылі. Згарэла ўсё ў вайну, ніводнай не засталося. Думала, мо ў каго са сваякоў ёсць, дык таксама няма.

— Але ж, Манька, хоць ведалі, што быў бацька, што з вайны не прыйшоў.

— Ай, Марыля, гэтак і Нінчыны ведалі! Каб не вайна, дык і мае б ведалі, і яе. А так...

— Каб жа не вайна! Да вайны і «гадаванцаў дзедавых» ніхто не ведаў. А калі, не дай бог, дзеўка каторая нагуляе да замуства, дык на ўсё сяло сораму. Не толькі бацькам.

— То і правільна было! Як гэта, чуеш-далібог, каб дзяўчына да вяселля гуляла з кім? Гэта ж матцы і бацьку вочы завяжы!

— Да вайны, да вайны... А пасля вайны жыць неяк трэба было?! Як тое дзіця ў каторай знайшлося, хто яго там ведае, а матцы на старасць радасць, не адна вякуе...

— Пэўне ж! Абы добры чалавек з таго дзіцяці вырас!

— От гэта, Манечка, праўда!..

Сонца села. У канцы вёскі зарыкалі каровы — вяртаецца з поля статак. Са свайго седала, абтрасаючы спадніцу, падымаецца цётка Манька:

— Пайду ж пераймаць.

І ідзе насустрач статку, крыху накульгваючы: відаць, адседзела нагу.

— Ну, то пара і нам. Пагаманілі і досыць.

— Трэба ж на вячэру нешта збіраць.

— Ай, а я ўжо і рабіць нічога не буду. Хлопцу малака дам, а сама і так лягу.

— Ды ўжо ж...

І жанчыны разыходзяцца.

А заўтра, калі будзе на пагодзе, на Ганнінай лаўцы зноў збярэцца — на заходзе сонца — «бабскі парламент»...



## ЗМЕСТ

**Гіль М.**

Ранішнія сны. Мн., «Маст. літ.», 1973.
160 с. 7000 экз. 20 к.

«Ранішнія сны» — першая кніга празаіка Міколы Гіля, у якую ўвайшлі апавяданні, што друкаваліся ў свой час у рэспубліканскім перыядычным друку. У іх малады пісьменнік расказвае пра нашых сучаснікаў, людзей вёскі і горада, пра іх чалавечыя і грамадскія ўзаемадачыненні. Асобныя апавяданні навеяны ўспамінамі ваеннага дзяцінства. У кнігу ўключана і нізка вясковых занатовак пад назвай «Слабодскі парламент» — шчыры, непасрэдны, амаль дакументальны расказ пра вясковых жанок-працаўніц, пра іх турботы і клопаты.

Г $\frac{0733\text{-}085}{М\ 302(05)\text{-}73}$ 66-73

Бел 2
Г 47

На белорусском языке

Гиль (Гилевич) Николай Семенович

Утренние сны

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров БССР по делам издательств, полиграфии и книжной торговли. Минск, ул. Советская, 19.

Рэдактар М. Капыловіч. Мастак Н. Лазавы. Мастацкі рэдактар А. Труханава. Тэхнічны рэдактар М. Папкова. Карэктар А. Берліна.

АТ 08584. Здадзена ў набор 5/X 1972 г. Падп. да друку 9/IV 1973 г. Тыраж 7000 экз. Фармат 70×90¹/₃₂. Пап. друк. № 1. Ум. друк. арк. 5,85. Ул.-выд. арк. 5,97. Зак. 1585.
Цана 20 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.